Нацыянальны інстытут адукацыі

Кантрольна-вымяральныя матэрыялы

М. У. Грынько, А. В. Руцкая, І. М. Гоўзіч

# Беларуская літаратура

## Зборнік творчых заданняў для тэматычнага кантролю

## 10–11 класы

Дапаможнік для настаўнікаў
устаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай і рускай мовамі навучання

*Рэкамендавана
Навукова-метадычнай установай
«Нацыянальны інстытут адукацыі»
Міністэрства адукацыі
Рэспублікі Беларусь*

Мінск • «Аверсэв» • 2012

УДК 373.5.016:821.161.3.09
ББК 74.268.3(4Беи)
Г75

*Серыя заснавана ў 2012 годзе*

**Рэцэнзенты:**

лабараторыя гуманітарнай адукацыі Навук.-метад. установы «Нацыянальны інстытут адукацыі» Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь; метадыст вышэйшай катэгорыі ўпраўлення вучэб.-метад. работы дзярж. установы адукацыі «Акадэмія паслядыпломнай адукацыі» ***Т. В. Корбан***

**Грынько, М. У.**

Г75 Беларуская літаратура : зборнік творчых заданняў для тэматычнага кантролю : 10—11 класы : дапам. для настаўнікаў устаноў агул. сярэд. адукацыі з беларус. і рус. мовамі навучання / М. У. Грынько, А. В. Руцкая, І. М. Гоўзіч. — Мінск : Аверсэв, 2012. — 79 с. — (Кантрольна-вымяральныя матэрыялы).

ISBN 978-985-19-0051-6.

Прапанаваныя ў зборніку творчыя заданні могуць быць выкарыстаны настаўнікам для ажыццяўлення розных відаў кантролю і ацэнкі якасці засваення вучнямі асноўнага вучэбнага матэрыялу і дынамікі змяненняў узроўню сфарміраванасці ў іх вопыту літаратурна-творчай дзейнасці.

**УДК 373.5.016:821.161.3.09**
**ББК 74.268.3(4Беи)**

*Вучэбнае выданне*

КАНТРОЛЬНА-ВЫМЯРАЛЬНЫЯ МАТЭРЫЯЛЫ

**Грынько** Мікалай Уладзіміравіч
**Руцкая** Алена Вітальеўна
**Гоўзіч** Ірына Мікалаеўна

**БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА**

**Зборнік творчых заданняў для тэматычнага кантролю**

**10—11 класы**

Дапаможнік для настаўнікаў устаноў агульнай сярэдняй адукацыі з беларускай і рускай мовамі навучання

Адказны за выпуск *Д. Л. Дзямбоўскі*

Падпісана ў друк 25.09.2012. Фармат 60×84 1/16. Папера афсетная. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 4,65. Ул.-выд. арк. 3,10. Дадат. тыраж 2100 экз. Заказ

Таварыства з дадатковай адказнасцю «Аверсэў».
ЛИ № 02330/0003944 ад 03.02.2009. Вул. М. Олешава, 1, офіс 309, 220090, Мінск.
**E-mail: info@aversev.by; www.aversev.by**
Кантактныя тэлефоны: (017) 268-09-79, 268-08-78.
Для пісьмаў: а/с 3, 220090, Мінск.

УПП «Віцебская абласная друкарня».
ЛП № 02330/0494165 ад 03.04.2009.
Вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4, 210015, Віцебск.

**ISBN 978-985-19-0051-6**

# Прадмова

Сістэма кантролю ўзроўню ведаў, уменняў і навыкаў, якія набываюць вучні ў 10–11 класах, павінна ахопліваць тры асноўныя накірункі праверкі: *чытанне, веды па літаратуры і літаратурна-творчую і маўленчую дзейнасць вучняў.*

Паколькі чытанне — аснова літаратурнай адукацыі, то ўсе характэрныя адзнакі літаратурнай адукаванасці непасрэдна звязаны з чытаннем, успрыманнем і засваеннем прачытанага. Начытанасць, чытацкая культура — адзін з асноўных паказчыкаў узроўню літаратурнай адукацыі.

Праверка ўзроўню ведаў павінна насіць комплексны характар, адпавядаць эстэтычнай сутнасці літаратуры і ступені літаратурнага развіцця вучняў.

У цэнтры ўвагі могуць быць праверачныя заданні самай рознай накіраванасці, прызначаныя для ацэнкі:

— начытанасці вучняў, іх патрэбы ў чытанні, атрыманні і прымяненні ведаў у самастойнай практыцы;

— развіцця назіральнасці, эмацыянальна-вобразнай памяці, уменняў узнаўляць карціны, адлюстраваныя ў творы, успрымаць свет пачуццяў і перажыванняў герояў, аўтарскую задуму, яе мастацкае ўвасабленне;

— здольнасці разумець эстэтычную прыроду вобразнага мыслення, метафарычнасці мовы, адчуваць асацыятыўнае багацце мастацкага слова;

— умення ўспрымаць твор як мастацкую цэласнасць у адзінстве зместу і формы, самастойна ацэньваць яго мастацка-эстэтычную каштоўнасць, грамадскае значэнне, матываваць, абгрунтоўваць сваю ацэнку;

— разумення жанравай спецыфікі твора, асаблівасцей мовы і стылю пісьменніка;

— успрымання і засваення літаратурнага твора ў сістэме творчасці пісьменніка, у суадносінах з развіццём літаратуры і эпохай яго стварэння;

— умення супастаўляць вывучаныя творы літаратуры і знаходзіць у іх агульнае і адметнае ў параўнанні з іншымі творамі мастацтва (музыкай, жывапісам, тэатрам, кіно і інш.);

— успрымання літаратуры як сінтэтычнага віду мастацтва, ведання яе паходжання, эвалюцыі, сучаснага стану;

— развіцця літаратурна-творчых здольнасцей вучняў, іх маўленчай культуры, свабоднага валодання вуснага і пісьмовага маўлення.

У 10–11 класах творчыя пытанні і заданні павінны мець найперш даследчую скіраванасць, садзейнічаць развіццю самастойнай творчай дзейнасці старшакласнікаў.

# 10 КЛАС

# Беларуская літаратура першай трэці XX стагоддзя

**1.** Падрыхтуйце рэферат на тэму «Асаблівасці развіцця заходнееўрапейскіх літаратур у міжваенны перыяд». Пры падрыхтоўцы можна карыстацца прапанаванай ніжэй літаратурай, а таксама іншым даведачным матэрыялам і інтэрнэт-рэсурсамі.

## ☝ Літаратура


1. История зарубежной литературы XX века, 1917–1945 : учебник / под ред. В. Н. Богословского, З. Т. Гражданской. — 4-е изд., испр. и доп. — М. : Просвещение, 1990. — 429 с.

2. История зарубежной литературы XX века : курс лекций / Учреждение образования «Мозырский гос. пед. ун-т им. И. П. Шамякина» ; авт.-сост. И. Ю. Вераксич. — Мозырь : МГПУ, 2009. — 170 с.

3. История зарубежной литературы XX века : учебник для вузов / под ред. В. Н. Богословского, З. Т. Гражданской. — М. : Просвещение, 1989. — 413 с.

4. *Лявонава, Е. А.* Лаўрэаты Нобелеўскай прэміі па літаратуры / Е. А. Лявонава // Роднае слова. — 2003 . — № 1. — С. 103–106.

5. *Лявонава, Е. А.* Плыні і постаці: з гісторыі сусветнай літаратуры другой паловы XIX – XX ст. : дапам. для настаўнікаў / Е. А. Лявонава. — Мінск : Рэд. часопіса «Крыніца», 1998. — 335 с.

6. *Лявонава, Е. А.* «Багата загінула розных багоў...»: асноўныя тэндэнцыі развіцця замежнай літаратуры 1-й паловы XX стагоддзя / Е. А. Лявонава // Роднае слова. — 2004. — № 4. — С. 31–35.

**2.** На аснове ніжэйпрыведзенай схемы падрыхтуйце лаканічныя паведамленні пра асаблівасці развіцця беларускай літаратуры ў першай трэці XX стагоддзя.




**3.** На аснове прапанаванага алгарытму, карыстаючыся артыкуламі падручніка і дадатковай літаратурай, падрыхтуйце невялікія разгорнутыя паведамленні пра літаратурныя аб'яднанні 20–30-х гадоў XX стагоддзя.

Пры падрыхтоўцы дадзенага задання варта карыстацца наступнымі дапаможнікамі:

✓ Беларускія пісьменнікі і літаратурны працэс 20–30-х гг. — Мінск, 1985. — С. 3–24.

✓ *Рагойша, В. П.* На шляху да Парнаса : даведнік маладога літаратара / В. П. Рагойша. — Мінск, 2003. — С. 90.

| Арганізацыя | Гады існавання | Заснавальнікі | Літаратурны орган | Вызначальнае літаратурнае крэда | Рысы і адметнасці | Найбольш яркія прадстаўнікі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| МАЛАДНЯК | 1923–1928 | М. Чарот, А. Дудар, А. Вольны, А. Александровіч | Часопіс «Маладняк» | Ідэі марксізму-ленінізму ажыццявіць у беларускай мастацкай творчасці | Мастацкі вобраз павінен аб'ектыўна адпавядаць рэальнасці і разам з тым спадчыну лічылі перажыткам, імкнуліся да новага, але захапляліся «арыгінальнічаннем» | Больш за 500 сяброў. Сярод іх: К. Чорны, К. Крапіва, У. Дубоўка, М. Лынькоў, П. Броўка, А. Куляшоў |
| УЗВЫШША | | | | | | |
| ПОЛЫМЯ | | | | | | |
| БелАПП | | | | | | |

**4.** Патлумачце кожны з пунктаў наступнай памяткі пра рэалізм як літаратурны кірунак (абапірайцеся на прыклады вывучаных раней твораў).

**Асаблівасці рэалізму**

1) Аб'ектыўнасць адлюстравання жыцця, фатаграфічнасць.
2) Выяўленне сацыяльных вытокаў, з'яў і падзей.
3) Аналіз або паказ сацыяльна-гістарычных канфліктаў.
4) Звычайны герой у звычайных абставінах.
5) Усебаковасць адлюстравання чалавечай асобы:
   а) род дзейнасці;
   б) псіхалагічны партрэт;
   в) духоўнае жыццё.
6) Аналітычнае раскрыццё абставін:
   а) умовы, у якіх фарміруецца характар персанажа;
   б) умовы, у якіх даводзіцца дзейнічаць персанажу.
7) Выяўленне вытокаў супярэчнасцей і сацыяльнай несправядлівасці.

Карыстаючыся прыведзенай вышэй памяткай, складзіце паведамленне пра *мадэрнізм* і яго плыні (*постмадэрнізм*, *авангардызм*). У якасці ключавых накірункаў скарыстайце наступныя тэзісы.

## Мадэрнізм

✓ Непрыняцце сацыяльнай, гістарычнай абумоўленасці мастацтва;
✓ засяроджанасць на выключна ўнутраным свеце чалавека (лірычнага героя, вобраза-персанажа);
✓ незвычайнасць мастацкай формы, элітарнасць, вышуканасць.

**5.** Стварыце вусную (а пры магчымасці з выкарыстаннем камп'ютарных сродкаў) галерэю найбольш яркіх прадстаўнікоў заходнебеларускай літаратуры. Падкрэсліце, якія пытанні і з'явы нацыянальнага жыцця былі ў цэнтры ўвагі іх творчасці.

# МАКСІМ ГАРЭЦКІ

**1.** Прачытайце наказ вядомага беларускага пісьменніка і навуказнаўца М. Гарэцкага, а таксама словы пра пісьменніка і паразважайце над імі.

✓ «Гадуйцеся на чытанні класікаў і ўдыхайце свежае паветра народнай паэзіі, пазнавайце прыгажосць гэтай паэзіі, а маючы ў сабе карані гэтай паэзіі, тчыце праўдзівамастацкія ўзоры беларускага жыцця» (*М. Гарэцкі*).

✓ «Гарэцкі разам з іншымі выдатнымі беларускімі пісьменнікамі ўзнімаў беларускую літаратуру на ўзровень сусветнай вартасці, удала карыстаючыся нацыянальнымі набыткамі і традыцыямі» (*М. І. Мішчанчук*).

**2.** Карыстаючыся схемай вывучэння жыцця і творчасці пісьменніка, падрыхтуйце паведамленні пра жыццёвы і творчы лёс М. Гарэцкага.

 **Схема да знаёмства з жыццём і творчасцю пісьменніка**

1) Агульная характарыстыка гістарычнага перыяду, у які працаваў ці працуе пісьменнік.

2) Асноўныя асаблівасці развіцця літаратурнага працэсу.

3) Кароткія звесткі з біяграфіі пісьменніка.

4) Характарыстыка творчасці пісьменніка:

а) пачатак літаратурнай дзейнасці;

б) этапы ці перыяды дзейнасці (можна выкарыстоўваць сінхранічныя табліцы);

| Даты (перыяд) | Адметнасць часу | Жыццё пісьменніка | Творы |
|---|---|---|---|
| | | | |

в) агульная характарыстыка тэматыкі, праблематыкі і мастацкіх асаблівасцей найбольш значных твораў і зборнікаў.

5) Пісьменнік і грамадства:

а) сацыяльная пазіцыя мастака, яго ўдзел у грамадскім жыцці;

б) уплывы грамадска-палітычных абставін на творчасць пісьменніка;

в) ацэнкі твораў або новае прачытанне ў сувязі са зменамі грамадска-палітычных абставін.

6) Значэнне дзейнасці пісьменніка і яго суаднесенасць з сусветным літаратурным працэсам.

Або напішыце эсэ «Чым мяне зацікавіла і ўразіла жыццё Максіма Гарэцкага».

**3.** Пракаменціруйце выказванні.

✓ «Максім Гарэцкі вылучаў як асноўную ідэю патрабаванне абуджэння чалавечай годнасці ў кожным прадстаўніку народа, разумеючы гэта

як умову абуджэння ў кожным нацыянальнай самасвядомасці»[1] (*І. М. Слесарава*).

✓ У развагах пра тэатр Максім Гарэцкі выказвае свой арыгінальны погляд на гісторыю народа, нацыянальны характар беларуса, душу, псіхалогію сялянства. Пісьменнік называе беларуса-селяніна «арыстакратам духу», сцвярджае думку, што не хлебам адзіным спакон веку жыў беларускі працоўны народ, які «ў гістарычным жыцці сваім заўсёды больш схіляўся к патрэбам душы, чымся к патрэбам цела»[2].

**4.** Карыстаючыся схемай, прааналізуйце кампазіцыю апавядання «Роднае карэнне».




**5.** Прачытайце рэцэнзію І. Навуменкі на апавяданне М. Гарэцкага «Літоўскі хутарок». Ці супадаюць вашы меркаванні з думкамі крытыка? Што б яшчэ вы маглі дадаць?

*Іван Навуменка*

## АДНО АПАВЯДАННЕ

Імя Максіма Гарэцкага толькі ў апошнія гады становіцца вядомым шырокаму чытачу. Пасля надрукавання раманаў «Віленскія камунары» і аўтабіяграфічнай аповесці «Камароўская хроніка» мы як бы нанава адкрылі для сябе гэтага надзвычай цікавага і арыгінальнага мастака слова. А між тым Максім Гарэцкі быў у ліку пісьменнікаў, якія закладвалі першыя цагліны ў падмурак беларускай прозы. Пра адно з апавяданняў Гарэцкага — «Літоўскі хутарок», якое было напісана

[1] *Карухіна, В. А.* Урокі беларускай літаратуры ў 8 класе : вучэб.-метад. дапам. / В. А. Карухіна, П. І. Лявонава, І. М. Слесарава. — Мінск, 2006. — С. 204.
[2] *Гарэцкі, М.* Выбраныя творы : у 2 т. / М. Гарэцкі. — Мінск, 1973. — Т. 1. — 405 с.

ў 1915 годзе, у той час, калі пісьменнік знаходзіўся на руска-германскім фронце, мне і хочацца сказаць некалькі слоў.

Дарэвалюцыйнае беларускае апавяданне, прадстаўленае імёнамі Ядвігіна Ш. (А. Лявіцкага), Якуба Коласа, Змітрака Бядулі, было не надта разнастайным у жанравых адносінах. Псіхалагізм, глыбокае, шматбаковае бачанне жыцця толькі-толькі прабівалі ў ім сабе дарогу. Таму — скажу шчыра — я быў здзіўлены, калі некалькі гадоў назад прачытаў «Літоўскі хутарок» Максіма Гарэцкага. Па ўзроўню творчай культуры гэтае апавяданне можна было параўнаць хіба толькі з лепшым, што стварыў да рэвалюцыі ў прозе Якуб Колас — з яго апавяданнямі «Нёманаў дар» і «Малады дубок».

Гаворка ў творы Гарэцкага ідзе пра звычайную сядзібу Яна Шымкунаса, размешчаную недзе паблізу прускай граніцы, пра яе жыхароў — самога гаспадара Яна, ягоную жонку Даміцэлю, дачок Ядвісю і Монцю, а таксама салдат рускай арміі Ярмашчука і Дудзіка, феерверкера Сініцу, што сталі сваімі людзьмі на гэтым адзінокім хутары.

Спачатку хутарок знаходзіўся па гэты бок фронту, у межах баявых дзеянняў рускай арміі, потым прыйшлі салдаты кайзера Вільгельма, затым зноў вярнуліся рускія. Вайна парушыла мірны жыццёвы клопат жыхароў хутарка, прынесла ім незлічоныя пакуты. Пра ўсё гэта пісьменнік расказаў з такой чалавечай увагай да іх жыцця, побыту, з такім вялікім болем, спагадай да пакут простых людзей. І разам з тым у апавяданні няма ніякіх знешніх эфектаў, эмацыянальных «выбухаў». Усё ў ім проста, будзённа, звычайна. Але ж расказаць так — значыць валодаць найвышэйшым майстэрствам, быць рэалістам, псіхолагам у самым высокім значэнні гэтых слоў. Вось, скажам, сціслыя і па-мастацку ёмістыя партрэты дачок Яна Шымкунаса:

«Чорненькая Ядвіся не была так прыгожа, як большая Монця, але яе бойкія, вясёлыя чорненькія вочкі, чырвона-смугленькія з ямачкамі шчочкі, дзяціна-капрызны са смяшком склад вуснаў, маладыя круглыя ручкі, гібкасць і крутасць паланялі салдат, не ведаўшых, чым і як ёй дагадзіць.

Беленькая Монця мела больш строгую красу і была сур’ёзней і неяк задумней. Гэта быў тып літвінкі. Прадаўгаваты тварык з шэрымі, сумнымі, удаўжонага разрэзу вачамі; круглы, але правільны нос; рот з рысамі, лёгка даючымі пакорліва-сумную ўсмешку; роўныя, белыя зубы, доўгая, багатая белакурая з завіточкамі каса.

Не кожны салдат рашаўся жартаваць з Монцяю».

Вось гэтую багатую «прадметнасць», «рэчавасць» бачання жыцця, высокую рэалістычную, псіхалагічную культуру і нёс у беларускую прозу Максім Гарэцкі, пісьменнік надзвычай таленавіты і глыбокі.

**6.** На аснове афарыстычных выказванняў Максіма Гарэцкага складзіце невялікія эсэ-разважанні.

✓ «Адным енкам ды стогнам бядзе людской не паможаш» (*«Роднае карэнне»*).

✓ «Справядлівы шлях ідэйнага і сумленнага чалавека — шлях дабра, праўды і хараства» (*«У чым яго крыўда»*).

✓ «Бяссільнасць пакрыўджанага — самае балючае пачуццё» (*«Спрэчкі»*).

## ЗМІТРОК БЯДУЛЯ

**1.** Сястра З. Бядулі Соф'я называла яго «кнігапаклоннікам». Паразважайце над сутнасцю гэтай назвы-характарыстыкі. Ці такі ж плён маюць інтэрнэт-паклоннікі?

**2.** Якую ролю ў творчым станаўленні З. Бядулі адыграла газета «Наша ніва»?

**3.** На розных этапах жыццёвага шляху З. Бядулі поруч з ім былі выдатныя асобы, таленавітыя пісьменнікі. Хто яны? Як уплывалі на творчасць З. Бядулі? Афарміце свае адказы ў выглядзе табліцы па прыведзеным узоры.

| Час | Асобы |
|---|---|
| 1913 год, рэдакцыя газеты «Наша ніва» | Янка Купала |
| | |
| | |
| | |

**4.** У творы «Дзесяць загадаў для памяці» З. Бядуля піша: «Шануй сваю мову, свае песні, свае казкі, звычаі і ўсё роднае — … гэта вялікі нацыянальны скарб… Толькі тады чалавек вольны, калі мае ўсё сваё». Напішыце эсэ на тэму, узнятую ў афарыстычным выказванні пісьменніка.

**5.** Узгадайце пісьменнікаў і творы, дзе ўздымалася праблема мастака і мастацтва. Як асэнсоўвае гэту праблему З. Бядуля ў апавяданні «Бондар»?




**6.** Разгледзьце схему, пракаменціруйце яе на прыкладзе вобраза Данілы з апавядання «Бондар».




**7.** Карыстаючыся схемай, вызначце элементы сюжэта абразка «Бондар». Абгрунтуйце свой адказ.

**8.** Якія кампазіцыйныя часткі абразка асабліва выразна выяўляюць рамантычную антытэзнасць, выкарыстаную З. Бядулем у апавяданні «Бондар»?



**9.** Карыстаючыся прапанаваным алгарытмам, дакажыце, што «Плач пралескаў» З. Бядулі — абразок.

**10.** Як бы вы вызначылі грані адрознення ў азначэннях жанру «абразок»: *«мініяцюра», «эцюд», «замалёўка», «імпрэсія».*

**11.** Пазнаёмцеся з абразкамі Ф. Янкоўскага, А. Карпюка, Б. Сачанкі, У. Арлова. Напішыце водгук на адзін з іх (на выбар). Або паспрабуйце напісаць свой абразок.

## УЛАДЗІМІР ДУБОЎКА

**1.** Прааналізуйце прыведзенае ніжэй выказванне даследчыцы творчасці У. Дубоўкі. Якімі прыкладамі можна пацвердзіць яе думку?

«Уладзімір Дубоўка — паэт надзвычайнай эрудыцыі, высокай мастацкай культуры, тонкага густу і драматычнага светаадчування, паэт, палка закаханы ў Беларусь» (*І. Багдановіч*).

**2.** Наступныя радкі напісаны У. Дубоўкам у 1927 годзе. Чаму іх назвалі «прадбачаннем лёсу»? Дайце разгорнуты адказ з каменціраваннем радкоў.

***

Такая маўклівасць: ні песень , ні слоў,
Задумнасць пагрозная, смутак...
<...>
Напэўна я скора ўсе сілы аддам
Паміж палыноў, сухазелля.
Прынікну тады галавой да зямлі,
На ростань зямлю пацалую.
Пра літасць нікога не буду маліць
Літаннямі ці алялюляй.

**3.** Карыстаючыся матэрыяламі падручніка і іншымі крыніцамі, падрыхтуйце разгорнутыя паведамленні на тэму «“Тры кругі” жыццёвай сцежкі Уладзіміра Дубоўкі».

**4.** Дакажыце правільнасць наступнай схемы-апоры.



Узгадайце, што вы ведаеце пра гэтыя літаратурныя аб'яднанні, успомніце асаблівасці творчай праграмы кожнага з іх. Як яны паўплывалі на творчасць У. Дубоўкі?

5. Пацвердзіце прыкладамі наступныя рысы стылю У. Дубоўкі:
✓ багацце метафарычных вобразаў;
✓ ужыванне слоў-наватвораў;
✓ спалучэнне рыс прыродаапісальнай і філасофскай лірыкі;
✓ афарыстычнасць.

6. Параўнайце вершы У. Дубоўкі «Залатая асенняя раніца» і «Пальцы жоўтых кляновых лістоў» з жывапісным палатном А. Бараноўскага «Пара залатых бяроз» ці іншым палатном (на выбар вучняў ці настаўніка).

7. Складзіце міні-эсэ па афарыстычных радках з вершаў У. Дубоўкі:

✓ «Адзін... другі... І так —
як след за следам
Гады і дні злятаюць і красуюць» («*Жыццё маё*»).
✓ «Пераможа усё чалавек
Пры змаганні упартым, няспынным»
(«*Цішыня... галасы*»).
✓ «О Беларусь! Я на цябе малюся,
Тваім шляхом —
прайду ў шырокі свет («*Не трэба мне...*»).

## КАНДРАТ КРАПІВА

1. Прачытайце аўтабіяграфію К. Крапівы са зборніка «Пяцьдзясят чатыры дарогі: аўтабіяграфіі беларускіх пісьменнікаў / склад. Я. Казека. — Мінск : Дзяржвыд. БССР, 1963. — 551 с.». Падзяліцеся сваімі ўражаннямі. Якія радкі пісьменніка вытлумачваюць яго прыход у літаратуру?

2. Складзіце творчы праект «Шлях сялянскага сына з вёскі Нізок да вяршынь літаратурнага алімпу».

3. Паразважайце над прыведзенымі ніжэй выказваннямі, параўноўваючы іх змест.

✓ «Простае жаданне ўмяшацца ў жыццё і сёе-тое ў ім паправіць» (*К. Крапіва*).

✓ «Кандрат Крапіва сваім псеўданімам падкрэсліваў скіраванасць сваёй творчасці — “апякаць” носьбітаў недахопаў, заган грамадскага ўладкавання чалавека» (*В. Ляшук*).

**4.** Узгадайце спосабы стварэння характару вобраза-персанажа ў эпічных творах. Якія з гэтых прыёмаў выкарыстоўваў К. Крапіва для абмалёўкі вобразаў у байках?

**5.** Складзіце алгарытм-памятку «Асаблівасці баек».

**6.** Чаму ў байцы «Дыпламаваны Баран» вобразы алегарычныя, а ў байцы «Махальнік Іваноў» — не?

**7.** Паспрабуйце скласці лагічныя ланцужкі назірання над зместам баек К. Крапівы па ўзоры.

**Узор:**

Аўтарская пазіцыя → Спосаб выражэння (у дадзеным выпадку — праз пабочны сказ) → Думка.

**Байка «Махальнік Іваноў»**

Асацыяцыя з сабачай службай → «У іх быў добры нюх» → Мець добры нюх — прадчуваць, што ад цябе хоча начальства.

**8.** Карыстаючыся схемай, якая дадзена ніжэй, вызначце ідэйна-мастацкі змест байкі (на выбар).

1) Вобразы дзеючых асоб;
2) канфлікт, які ляжыць у аснове твора;
3) мастацкія прыёмы, з дапамогай якіх характарызуюцца персанажы;
4) мастацкія прыёмы, якія выяўляюць асноўную думку твора;
5) супраць якіх заган (грамадства, чалавека) выступае аўтар.

**9.** Дакажыце справядлівасць выказвання «Байкі Кандрата Крапівы з цікавасцю ўспрымаюцца і сёння, у пачатку XXI стагоддзя. Яны не страцілі актуальнасці…» (В. Ляшук).

**10.** Патлумачце сутнасць вольнага верша. Чаму ён найбольш выкарыстоўваецца ў байках? Для назірання выкарыстайце прыведзены ніжэй урывак.

Таму ўжо будзе, мусіць, з год, (4 стапы)
Вучэбную стральбу праходзіла пяхота. (6 стапы)
Дык вось страляў аднойчы ўзвод (4 стапы)
Ці, можа, нават рота. (3 стапы)

А тут раптоўна Шэф аднекуль — шасць: (5 стоп)
Цікава паглядзець, а як страляе часць? (6 стоп)

**11.** Карыстаючыся схемай «Сродкі стварэння вобраза-персанажа», пракаменціруйце, якія К. Крапіва ўжывае сродкі для стварэння вобразаў Тулягі, Гарлахвацкага, Чарнавуса ў камедыі «Хто смяецца апошнім». Якія з прапанаваных пазіцый схемы вы не змаглі выкарыстаць? Чаму?




**12.** Прымяніце прапанаваную схему пры выяўленні аўтарскай пазіцыі камедыі К. Крапівы «Хто смяецца апошнім».




**13.** Пазнаёмцеся з артыкулам К. Крапівы «Канфлікт — аснова п'есы».

**14.** Карыстаючыся прыведзенай ніжэй схемай, паразважайце, як выяўляецца канфлікт у п’есе «Хто смяецца апошнім».




**15.** Запоўніце да канца прапанаваны кластар.

**Канфлікт**

Барацьба персанажа з самім сабой

Барацьба паміж персанажамі

Барацьба персанажа з абставінамі

*Туляга*

Пісаць або не пісаць працу?

Абараніць добрае імя?

Перастаць баяцца?

**16.** Якое з азначэнняў характарыстыкі Тулягі з пазіцый сённяшняга дня бачыцца вам найбольш аб'ектыўным?




**17.** Выкарыстоўваючы памятку-арыенцір, пракаменціруйце, як характарызуе героя мова (у залежнасці ад суразмоўцы). Пацвердзіце свае меркаванні прыкладамі (цытатамі з тэксту).




**18.** Працягніце пералік сродкаў сатырычнай тыпізацыі: *гаворачыя прозвішчы*…

**19.** Падрыхтуйце паведамленне на тэму «Сцэнічны лёс камедыі Кандрата Крапівы “Хто смяецца апошнім”».

**20.** Якую тэатральную афішу (дэкарацыі) вы прапанавалі б да камеды «Хто смяецца апошнім»? (Малюнак або вуснае апісанне.)

**21.** Падрыхтуйце на выбар міні-даклады па наступных тэмах:

✓ Кандрат Крапіва — класік беларускай літаратуры.
✓ Актуальнасць праблем, узнятых у творах Кандрата Крапівы.
✓ Тэматычная разнастайнасць баек Кандрата Крапівы.

## АНДРЭЙ МРЫЙ

**1.** Падрыхтуйце разгорнутыя адказы на наступныя пытанні:

а) У чым адметнасць жыццёвага і творчага лёсу А. Мрыя?

б) Што ўплывала на фарміраванне мастацкага таленту пісьменніка?

в) Чаму даследчык Я. Лецка сказаў, што А. Мрый заклаў традыцыі сатырычнага рамана ў беларускай літаратуры?

**2.** З прапанаваных азначэнняў выберыце правільнае адносна жанру рамана «Запіскі Самсона Самасуя», патлумачце свой выбар:

✓ раман-хроніка;
✓ раман-дзённік;
✓ сатырычная аповесць.

**3.** Андрэй Мрый даў свайму герою гаворачае прозвішча. Прааналізуйце апору.



**4.** Запоўніце кластар. Пракаменціруйце яго.




**5.** Рысы, якія характарызуюць Самсона Самасуя.

| Рысы | Чаму? (выкажыце сваё меркаванне, а па магчымасці — працытуйце ) |
|---|---|
| Жыццястойкі | «Ат! Пройдзе ўсё, а я застануся». Уменне прыстасавацца ў любых абставінах дае мажлівасць Самасую ўтрымацца на паверхні |
| Хітры | |
| Прадбачлівы | |
| Напорысты | |
| Эгаістычны | |
| Самаўпэўнены | |
| Абмежаваны | |
| Бяздарны | |
| Самазадаволены | |
| Знаходлівы | |

| Рысы | Чаму? (выкажыце сваё меркаванне, а па магчымасці — працытуйце ) |
|---|---|
| Практычны | |
| Крывадушны | |
| Бездухоўны | |
| Дзелавіты | |
| Ініцыятыўны | |
| Лайдакаваты | |

**6.** Паразважайце над выказваннем крытыка Івана Чыгрына:

«Такія "кіпучыя" дзеячы новай каманднa-чыноўніцкай сістэмы — небяспечныя і злавесныя.

Самасуеўшчына не бяскрыўдная і не бясшкодная, а заўсёды небяспечная... Работа кіпіць, бурліць, а вынікаў няма (пераліваецца з пустога ў парожняе). Самасуі паразітуюць у грамадстве».

**7.** Падрыхтуйце разгорнуты адказ-разважанне на наступныя пытанні (на выбар):

✓ Гарлахватчына і самасуеўшчына: ці можна паставіць знак роўнасці?
✓ Самсон Самасуй — гэта бытавая з'ява ці нешта большае?

**8.** Як праявілася крытычнае стаўленне да бюракратыі ў запісах суддзі Торбы? Чаму крытыкі назвалі «тэзісы» гэтага персанажа адлюстраваннем аўтарскай пазіцыі?

**9.** Вядома, што адным са спосабаў стварэння характараў у эпічных творах з'яўляецца мова вобраза-персанажа. Ці вылучаецца сваёй адметнасцю мова герояў рамана А. Мрыя «Запіскі Самсона Самасуя»? Знайдзіце выказванні герояў, якія, на вашу думку, найярчэй іх характарызуюць.

**10.** Вядома, што асноўнымі эстэтычнымі катэгорыямі з'яўляюцца катэгорыі *камічнага і трагічнага, узвышанага і нізкага, прыгожага і пачварнага*. Карыстаючыся слоўнікамі ці даведнікамі па эстэтыцы, падрыхтуйце паведамленне пра названыя катэгорыі.

**11.** У рамане А. Мрыя «Запіскі Самсона Самасуя» выкарыстаны разнастайныя прыёмы стварэння *камічнага*. Запоўніце да канца прапанаваную ніжэй схему-апору.

| | Прыём | Азначэнне | Прыклады з твора (цытаты) |
|---|---|---|---|
| Прыёмы стварэння камічнага | Гратэск | | |
| | Карыкатура | | |
| | Шарж | | |
| | Досціп | | |
| | Іронія | | |
| | Сарказм | | |
| | Гіпербала | | |

## СТЭФАН ЦВЭЙГ

**1.** Падрыхтуйце паведамленне на тэму «Творчая спадчына сусветна вядомага аўстрыйскага пісьменніка».

**2.** Карыстаючыся літаратуразнаўчым слоўнікам, дакажыце, што «Нябачная калекцыя» С. Цвэйга — навела.

**3.** Параўнайце погляды С. Цвэйга на высокае мастацтва і яго значэнне ў жыцці людзей з поглядамі З. Бядулі.

**4.** Паразважайце над своеасаблівым аксюмаранам «выратавальны падман» на аснове навелы С. Цвэйга «Нябачная калекцыя».

**5.** Чым блізкі С. Цвэйг З. Бядулю па глыбіні псіхалагічнай абмалёўкі герояў сваіх твораў?

## МІХАСЬ ЗАРЭЦКІ

**1.** На аснове біяграфіі М. Зарэцкага і знаёмства з яго творамі падрыхтуйце разгорнутае паведамленне па наступных выказваннях:

✓ «Ён імкнуйся спасцігнуць праўду “новага часу”».

✓ «Зарэцкага можна аднесці да першаадкрывальнікаў новых тэм і праблем у беларускай літаратуры».

**2.** Параўнайце старонкі біяграфіі З. Бядулі і М. Зарэцкага. Пад уплывам якіх абставін, падзей фарміраваўся іх талент, у чым падабенства і адрозненне іх творчай спадчыны?

**3.** Падмацуйце прыкладамі наступны алгарытм:

| Творчасць Міхася Зарэцкага |
|---|
| *Тэматыка* — жорсткі, трагічны «новы час» |
| *Праблематыка* — грамадзянскія і маральна-этычныя праблемы, народжаныя рэвалюцыяй |
| *Сюжэт* напружаны, дынамічны, з абвостранымі канфліктамі |
| *Псіхалагізм* — увага да ўнутранага свету герояў |
| *Пафас гуманістычны*, абарона чалавека як найвышэйшай каштоўнасці |
| *Мастацкі метад* — рамантызм |
| *Герой* — складаныя супярэчлівыя характары |

**4.** Дайце свае ацэнкі героям сюжэтных «трохкутнікаў»:

✓ Гуторскі — Ніна Купрыянава — Заруба (*апавяданне «Ворагі»*).

✓ Булановіч — Марына Гарнова — Абшарскі (*апавяданне «Кветка пажоўклая»*).

Супастаўце герояў, вылучце ў іх лёсах, характарах, паводзінах агульнае і адрознае. Дайце разгорнуты адказ на пытанне «Хто вінаваты ў іх жыццёвых трагедыях?».

**5.** Прааналізуйце словы Янкі Скрыгана «З першых апавяданняў за ім (М. Зарэцкім) ішла слава рамантыка». Пры адказе на пытанне выкарыстоўвайце прыведзеную ніжэй схему.

**Асаблівасці рамантызму**

1) Выкарыстанне вострай фабулы.
2) Заблытаная інтрыга, абвостранасць сцэн.
3) Драматычны сюжэт.
4) Паказ выключных падзей.
5) Незвычайныя героі.

6) Наяўнасць легендарных персанажаў.
7) Палярнасць герояў:
   а) высакародныя, духоўна багатыя, самаахвярныя, прыгожыя сэрцам і ўчынкамі;
   б) чэрствыя, дэспатычныя, жорсткія, цынічныя.
8) Эмацыянальнасць, узнёсласць, пафаснасць, вобразнасць мовы.
9) Матыў барацьбы за дабро, справядлівасць, свабоду.
10) Адухоўленасць прыроды.

**6.** Уважліва перачытайце наступнае азначэнне:

**Мастацкая дэталь** — выразная асобная падрабязнасць побыту, пейзажа, партрэта, маўлення ці дзеяння персанажа. Яна важны элемент твора, які дадае штосьці істотнае для разумення вобраза, эпізоду, ідэі, аўтарскай пазіцыі.

Знайдзіце ў тэкстах апавяданняў М. Зарэцкага мастацкія дэталі, патлумачце іх сэнсавую нагрузку.

**7.** Герой рамана М. Зарэцкага «Вязьмо» Галілей разважае: «Усё ламаецца, і чалавек мусіць ламацца». Ці тоесна гэта аўтарскай пазіцыі, якая выяўляецца ў апавяданнях?

**8.** Супастаўце вобразы гераінь апавяданняў «Ворагі» і «Кветка пажоўклая». Што аб'ядноўвае і розніць іх? Аформіце адказ у выглядзе прапанаванай ці ўласна створанай схемы.

**Узор:**






**9.** Ці можна пагадзіцца з меркаваннем, што апавяданні М. Зарэцкага — гэта творы пра каханне? Аргументуйце свой адказ.

**10.** Параўнайце, як у стварэнні чалавечых характараў выкарыстоўваюць мастацкую дэталь М. Зарэцкі і С. Цвэйг.

**11.** Паразважайце над словамі Д. Ліхачова «Нельга будаваць нейкае светлае, шчаслівае "новае жыццё", парушаючы Боскія законы і руйнуючы агульначалавечыя каштоўнасці, учыняючы гвалт над духоўным светам чалавека», дастасаваўшы іх да творчасці М. Зарэцкага.

# Беларуская літаратура перыяду Вялікай Айчыннай вайны

### (тэмы «Пятрусь Броўка», «Аркадзь Куляшоў», «Максім Танк»)

**1.** Пазнаёмцеся з аўтабіяграфіямі П. Броўкі, А. Куляшова, М. Танка з кнігі «Пяцьдзясят чатыры дарогі». Паразважайце над наступнымі пытаннямі:
- ✓ Што прывяло кожнага з іх у паэзію?
- ✓ Як пачыналіся іх паэтычныя сцежкі?
- ✓ Які адбітак наклала на іх жыццё і творчасць вайна?
- ✓ Што з'яўлялася жыццёвымі ідэаламі кожнага з іх?

**2.** Запоўніце наступную табліцу:

| ІНДЫВІДУАЛЬНАСЦЬ ТВОРЧАСЦІ | | | |
|---|---|---|---|
| Рысы стылю | П. Броўка | А. Куляшоў | М. Танк |
| Тэматыка і праблематыка | | | |
| Пафас | | | |
| Лірычны герой | | | |
| Дамінуючыя матывы | | | |
| Жанры | | | |
| Асноўная сістэма вершаскладання | | | |

**3.** Запоўніце наступную табліцу, указваючы вядомыя вам творы аўтараў:

| Від лірыкі / Аўтары | Грамадзянская | Філасофская | Пейзажная | Інтымная |
|---|---|---|---|---|
| П. Броўка | | | | |
| А. Куляшоў | | | | |
| М. Танк | | | | |
| Азначэнне віду | | | | |

На аснове створанай табліцы паразважайце над тым, які від лірыкі найбольш праявіўся ў названых аўтараў і чаму.

**4.** На аснове артыкула падручніка «Сілаба-танічная сістэма вершаскладання. Верлібр. Вобраз асацыятыўны» падрыхтуйце тэарэтыка-літаратурны міні-даведнік, дзе знойдуць адлюстраванне тэрміны і іх азначэнні і адпаведныя прыклады да іх.

**5.** Вядома, што ўсе адзначаныя вышэй пісьменнікі ў сваёй творчасці выкарыстоўвалі класічныя віды строф. Праілюструйце канкрэтнымі прыкладамі гэтае выкарыстанне. Пры неабходнасці звярніцеся да літаратуразнаўчых даведнікаў.

**6.** Пазнаёмцеся з наступным азначэннем паняцця «лірычны герой». Паразважайце, што яднае і адрознівае лірычнага героя П. Броўкі, А. Куляшова, М. Танка.

> **Лірычны герой** — гэта асоба, ад імя якой напісаны лірычны твор, праз яго паэт выказвае свае перажыванні, развагі, погляды, думкі, настроі.

**7.** Дапоўніце слоўныя рады, якія характарызуюць лірычнага героя аднаго з паэтаў (на выбар), па прапанаваным узоры:

*Лірычны герой* — гэта патрыёт, змагар, гуманіст...
*Лірычны герой* — чалавечны, шчыры, дабрачынны...
*Лірычны герой* — змагаецца, здзяйсняе, аберагае...

**8.** Разгледзьце наступны запіс. Паразважайце над яго зместам. Успомніце, да якой паэтычнай формы ён падобны. Карыстаючыся гэтым запісам, прааналізуйце некалькі верлібраў М. Танка.

**В** — вольны, вобразны;
**Е** — еўрапейскі;
**Р** — раскаваны;
**Л** — лаканічны;
**І** — інтэлектуальны;
**Б** — багаты сэнсава;
**Р** — роздумны, разважальны.

**9.** Напішыце водгук на наступныя верлібры (на выбар) М. Танка:

### ЗЯМЛЯ

Ёсць звычай спаконвечны ў афрыканцаў:
Калі госць ад'язджае,
яго просяць
Разбуцца і з абутку пыл зямны атрэсці,
Бо гэта —
іх найдаражэйшы скарб.

Тут могуць вам падараваць на памяць
Алмазы, золата ці сланоў біўні,
Але зямля,
у якой ляжаць бацькі іх,
А некалі і ім прытулак дасць, —
Не дорыцца нікому
і не прадаецца.

***

Я ў захапленні
ад строяў тваіх,
Тваіх бранзалет,
завушніц дарагіх,
Такіх дарагіх,
што сама ты
Да іх —
малазначны дадатак.

***

Ты павіталася,
А я — усцешыўся,
Але хутка выпусціў з рук
Тваю далонь,
Не знайшоўшы на ёй
Сваёй
Дарогі жыцця.

***

— Буду вечна кахаць.
— Буду вечна чакаць.
— Буду вечна помніць...

Словы, якія могуць
Нічога не значыць
Для тых,
Каго кахаюць,
Каго чакаюць,
З кім развітваюцца.
І толькі знаюць
Іх сапраўдны цяжар тыя,

Хто кахае,
Хто чакае,
Хто яшчэ застаецца
Жыць.

***

Каб зрабіць першы крок,
Патрэбна нам
Рука маці;
Каб, спатыкнуўшыся,
Зноўку падняцца —
Вера ў дарогу;
Каб адчуць цяпло сонца —
Дружба;
Каб не знаць адзіноцтва —
Радзіма.

**10.** Дапішыце апошні радок аднаго з верлібраў М. Танка. Суаднясіце свой выбар з аўтарскім. На аснове прапанаванага твора пакажыце глыбокую філасафічнасць верлібра як мастацкай формы.

***

Ты толькі намёк на чалавека,
Калі ва ўсім спадзяешся на маці.
Ты толькі трэць чалавека,
Калі ва ўсім спадзяешся на сяброўства.
Ты толькі палова чалавека,
Калі ва ўсім спадзяешся на каханне.
І толькі тады ты чалавек,
Калі ______________________________________________.

(*«Калі ўсе могуць спадзявацца на цябе»*)

**11.** У чым сэнс чалавечага існавання? Дзеля чаго мы прыходзім у жыццё? Што з'яўляецца сапраўднай каштоўнасцю ў нашым жыцці? — вечныя філасофскія пытанні. Як адказваюць на іх паэты? Праілюструйце радкамі з вершаў.

**12.** Пра праблемы сапраўднага мастацтва, пра долю і ролю мастака пісалі многія. Як М. Танк у паэме «Люцыян Таполя» выявіў сваё разуменне сутнасці мастацтва? Параўнайце ягонае бачанне з пазіцыяй Я. Купалы, М. Багдановіча, М. Гарэцкага, З. Бядулі і інш.

**13.** Складзіце міні-анталогію вершаў на любую з тэм (пра каханне, пра маці, пра мову, пра прыроду і г. д.) на аснове паэзіі П. Броўкі, А. Куляшова, М. Танка. Прадумайце, як будзе выглядаць вокладка, напішыце анатацыю да зборніка, падбярыце ілюстрацыі, прадумайце кампазіцыю.

## КУЗЬМА ЧОРНЫ

**1.** Запоўніце да канца табліцу, на аснове якой падрыхтуйце характарыстыку вобразаў Шрэдэра старэйшага і Шрэдэра малодшага. Што агульнага і адрознага ў гэтых герояў?

| Пытанне для параўнання | Густаў Шрэдэр старэйшы | Густаў Шрэдэр малодшы |
|---|---|---|
| 1. З якой мэтай прыйшлі на чужую зямлю | Пошук будучыні, шчасця, дабрабыту | |
| 2. Уяўленне перспектывы жыцця (дзе і як героі мараць жыць далей) | | |
| 3. Адносіны да мясцовых жыхароў | | |
| 4. Жыццёвы фінал | | |

**2.** Як вядома, адной з тэм у «Пошуках будучыні» з'яўляецца тэма «ўкрадзенага маленства». Паразважайце, хто і ў каго гэтае маленства «ўкраў».

**3.** Складзіце галерэю герояў з будучыняй і без будучыні.

**4.** У рамане «Пошукі будучыні» да кожнай з частак К. Чорны падае эпіграф. Суаднясіце сэнс эпіграфаў з назвамі частак і іх зместам.

**5.** Раман «Пошукі будучыні» вельмі багаты на разнастайныя сімвалы. Прапануем вам наступны пералік такіх вобразаў. Паспрабуйце раскрыць іх сэнс.

✓ Вобраз будучыні.

✓ Дрэва (хвоя, клён, сагнутае дрэва на дарозе да Ракуцькавай хаты, велічэзная бяроза, пакрыўчастая асіна, таполя — вечнае дрэва).

✓ Вобраз Густава Шрэдэра.

**6.** Прааналізуйце і дапоўніце табліцу адпаведнымі цытатамі і ўласнымі меркаваннямі.

| Герой | Жыццёвы пагляд (цытата з твора) | Каментарый |
|---|---|---|
| ЛЮДЗІ БЕЗ БУДУЧЫНІ | | |
| Граф Паліводскі | «Жыццё пражыта чорт ведае як і нічога не ўдалося» | Багацці і чыны — не тыя каштоўнасці. Служачы розным гаспадарам, князь спустошыў уласную душу |
| Густаў Шрэдэр старэйшы | | Лёс даў яму магчымасць стаць чалавекам (аддае золата з удзячнасці за ўласнае выратаванне). Але... |
| Густаў Шрэдэр малодшы | «Тут жывуць не людзі, а казюлі з нявольніцкай псіхалогіяй, яны створаны, каб быць слугамі» | |
| Люцыян Акаловіч | «Як валачашчы сабака, адзін, без народу, без веры, без надзеі» | Прычыны ўласнай трагедыі бачыць... |
| ЛЮДЗІ З БУДУЧЫНЯЙ | | |
| Нявада | «Чужая зямля пірагамі не накорміць, калі душу не аддасі». Нявада пра Паліводскага: «Як так жыць, каб не было за што душою зачапіцца, ні дрэва не пасадзіў, ні дом не збудаваў» | |

| Герой | Жыццёвы погляд (цытата з твора) | Каментарый |
|---|---|---|
| Сымон Ракуцька | «Ніколі не было, каб на нянавісці вырасла шчасце, а радасць на чужой бядзе» | Просты чалавек ператвараецца ў творцу, бо... |
| Кастусь Лукашэвіч | | |

# Беларуская літаратура пасляваеннага часу
## (да сярэдзіны 1960-х гадоў)

**1.** Падрыхтуйце рэферат на тэму «Асаблівасці развіцця заходнееўрапейскіх літаратур у пасляваенны перыяд». Пры падрыхтоўцы можна карыстацца літаратурай, прапанаванай да тэмы «Беларуская літаратура першай трэці XX стагоддзя», а таксама іншым даведачным матэрыялам і інтэрнэт-рэсурсамі.

**2.** На аснове ніжэйпрыведзенай схемы падрыхтуйце лаканічныя паведамленні пра асаблівасці развіцця беларускай літаратуры ў пасляваенны перыяд (да 1965 года). Звярніце асаблівую ўвагу на размежаванне перыяду на 2 падперыяды (да 1955 года і з 1956 года).



**3.** Запоўніце наступную табліцу:

| Род літаратуры | Аўтары | Жанры і творы |
|---|---|---|
| Эпас (проза) | | |
| Лірыка (паэзія) | | |
| Драма (драматургія) | | |

**4.** Стварыце вусную (а пры магчымасці з выкарыстаннем камп'ютарных сродкаў) галерэю найбольш яркіх прадстаўнікоў беларускай літаратуры пасляваеннага часу. Падкрэсліце, якія пытанні і з'явы нацыянальнага жыцця былі ў цэнтры ўвагі іх творчасці.

## ЯНКА БРЫЛЬ

**1.** Падрыхтуйце паведамленне на тэму «Янка Брыль расказвае пра сябе» на аснове зборніка «Пяцьдзясят чатыры дарогі».

**2.** Паразважайце, што гаворыць пра пісьменніка яго жыццёвае крэда, якое прыведзена ніжэй: «*Янка Брыль лічыў, што не трэба шкадаваць часу на сяброўства, любоў, на стваральную працу, на самаўдасканаленне*» (У. Калеснік).

**3.** Даследчык літаратуры А. Макарэвіч сцвярджае, што «*стыль пісьменніка — гэта творчая манера, што адрознівае яго ад сваіх калег па пяры. У кожнага з пісьменнікаў ёсць свая ўлюбёная тэма, свой асаблівы характар яе асвятлення, свая сістэма выяўленчых сродкаў*». Зыходзячы з гэтай цытаты, паразважайце над адметнасцю стылю Я. Брыля, карыстаючыся наступным выказваннем: «*Брыль — перш за ўсё лірык, лірызм пранізвае ўсю тканіну яго твораў — вобразы, сюжэт, моўную стыхію*» (У. Калеснік).

**4.** Найбольш характэрнымі рысамі творчасці Я. Брыля з'яўляюцца гуманізм, лірызм і аналітычнасць. Дакажыце гэта на аснове апавядання «Memento mori».

**5.** Пазнаёмцеся з біяграфіямі герояў апавядання «Галя», якія складзены вучнямі і змешчаны ў дапаможніку В. Я. Ляшук[3]. Дайце ім сваю ацэнку.

[3] *Ляшук, В. Я.* Вывучэнне творчасці пісьменніка: Янка Брыль у школе : дапам. для настаўнікаў агульнаадукац. устаноў / В. Я. Ляшук. — Мінск : Аверсэв, 2002. — 191 с.

**Біяграфія Галі**

Галя — пазашлюбнае дзіця Марылі Парабчанкі, самай беднай ва ўсёй вёсцы Гаросіца. Ніхто ў вёсцы не называў іх сапраўдным прозвішчам (можа, яго і не ведалі), бо дзяды і прадзеды Галі заўсёды былі парабкамі.

Маладзенькай дзяўчынкай Галя перажыла вялікае захапленне Сярожам Юрачкам, кажушнікам і гарманістам. Быў тыдзень вялікага шчасця. Кажушнікі пакінулі вёску. У хуткім часе Сярожа быў арыштаваны польскімі ўладамі за рэвалюцыйную дзейнасць і пасаджаны ў турму.

Галя не ўстаяла перад заляцаннямі Міколы Хамёнка, сына аднаго з багатых хутаранцаў, зацяжарыла і, каб прыкрыць свой сорам (тады гэта лічылася вялікім сорамам), выйшла замуж за нялюбага. Пачаліся гады жыцця ў хаце багацея з паўсядзённымі папрокамі: байстручка, жабрачка, няўдаліца, хоць была Галя і працавітай, і спраўнай, але беспасажніцай, чаго ёй не маглі дараваць Хамёнкі.

Так ішлі гады. У 1939 годзе памёр стары Хамёнак, а неўзабаве грымнула вайна. Гаспадарылі на хутары самі, з Міколам чакалі другое дзіця. У гады вайны Мікола ратаваўся ўсімі спосабамі: свядома старыўся, скардзіўся на хваробы, ад паліцэйскіх адкупляўся самагонкай. Жыццё неяк плыло, пакуль на хутары не паявіўся Сярожа з групай партызан. Галя параўнала свайго мужа і таго, хто мог ім быць. Гэтае параўнанне было не на карысць Міколы. З таго часу і жыла з адчуваннем пагарды да мужа. Гэтае пачуццё не знікла, калі муж быў на фронце, калі вярнуўся дадому. Увесь час насіла гераіня ў душы каханне да Сярожы. Яе спадзяванні ўзраслі, калі Мікола быў арыштаваны і асуджаны. Галя стала калгасніцай, а Сярожа трактарыстам. Маладзіца праклінае Хамёнкаў хутар, верыць у цуд, што Сярожа вернецца да яе.

**Біяграфія Сяргея Юрачкі**

Сяргей Юрачка — сірата з далёкай ад Гаросіцы вёскі. Ім апякуюцца яго дзядзькі, кажушнікі Торбы: купілі гармонік, бяруць з сабой на заробкі. Юнак звязаў свой лёс з заходнебеларускім падполлем.

Калі ён разам з дзядзькамі паявіўся ў Гаросіцы і стаў ладзіць танцы, то з усіх дзяўчат вылучыў Галю, прыгажуню і танцорку, адчуваў, што ён ёй падабаецца, пачаў праводзіць дадому. Ёй было дастаткова пацалункаў, прытулянняў, абдымкаў, ні пра што сур'ёзнае з ёй не гаварыў, ніякіх планаў на будучыню з ёй не меў. Не сказаў, што Чарнагрэбеня ведае даўно па падпольнай працы, што сам папрасіў, каб той прыйшоў у Гаросіцу, бліжэй пазнаёміўся з моладдзю, а заадно і падмяніў бы яго, Сяргея, як гарманіста. Кажушнікі ў Гаросіцы папрацавалі тыдзень і вярнуліся дадому, а ў хуткім часе Юрачка быў арыштаваны разам

з іншымі гаросіцкімі хлопцамі, з Чарнагрэбенем і яго аднавяскоўцамі. Дзе і як сустрэў Юрачка верасень 1939 года, пісьменнік не гаворыць, а ў гады Вялікай Айчыннай вайны ён партызан, і не радавы, а камандзір. Па тым, як паводзіць сябе Сяргей Юрачка на Хамёнкавым хутары, можна здагадацца, хто яго вучыў быць кіраўніком, забіраць у іншых тое, што можна забраць, беспакарана здзекавацца з чалавека. У пасляваенны час Галін каханы не выбіўся ў кіраўнікі. Ён працуе толькі трактарыстам.

**Біяграфія Міколы Хамёнка**

Мікола Хамёнак — адзіны сын заможнага хутаранца, які мае шэсць дзесяцін (адна дзесяціна = 1,09 га) добрага поля, новае вялізнае гумно, два хлявы і добры сад. Праўда, жывуць яны ў маленькай падслепаватай хаце, бо для бацькі галоўнае, каб было поўным гумно. Мікола — зайздросны кавалер для гаросіцкіх дзяўчат. Любая дзеўка з радасцю пайшла б за яго замуж, а ён пакахаў Галю Парабчанку. Тая не вельмі гарнулася да Міколы, асабліва калі ў вёсцы паявіўся Юрачка — кажушнік. Малады Хамёнак прасіў-маліў быць яго жонкай, пагражаў, што скончыць жыццё самагубствам, уламаў толькі тады, калі зацяжарыла ад яго. Прывёў яе, нежаданую, у бацькаву хату. Жылося неяк са старымі. Нечакана пачаліся адно за адным няшчасці. Спачатку прыйшлі Саветы, жылі ў страху, каб не вывезлі. Бацька страціў сэнс жыцця і памёр. Пачалі гаспадарыць самі. Чакалі другое дзіця. А тут вайна. Мікола стаяў у баку ад змагання супраць немцаў, ратаваўся як мог ад партызан, свядома старыўся, прыдумваў хваробы, а ад паліцэйскіх адкупляўся самагонкай.

У 1944 годзе быў прызваны ў войска, прымаў удзел у баях. Мікола вярнуўся дадому лёгкапараненым. Увагі на тое, што ваяваў, улады не звярталі. Трэба было думаць, як карміць сям'ю. Ён заняўся прадпрымальніцтвам, гандляваў самагонкай у Мінску, Стоўбцах, Баранавічах, быў арыштаваны і асуджаны як спекулянт. Адбывае тэрмін зняволення.

**6.** Пазнаёмцеся з характарыстыкай, якую дае Галі крытык У. Калеснік. Дайце сваю ацэнку гэтаму выказванню.

«Драма Галі заключаецца ў тым, што яна не можа зразумець і прыняць простай ісціны, што час заўжды незваротны, а лёс у многіх выпадках неадменны. Галя хоча вярнуць учарашні дзень, думае нелагічна, спадзяецца, што час пойдзе назад і верне ёй каханага хлопца, вясёлага

гарманіста Сяргея Юрачку, а забярэ панурага хутаранца Міколу Хамёнка.

Пры савецкай уладзе хутаранец перастаў каціравацца, а бедны Сяргей — пайшоў угору, так што паправіць лёс панадна, але немажліва»[4].

**7.** Янку Брыля называюць майстрам мастацкай дэталі. Пацвердзіце гэта прыкладамі з мастацкіх твораў аўтара.

**8.** Напішыце невялікае разважанне пра праблематыку апавядання «Галя» (лёс, сэнс жыцця, шчасце, каханне, сям'я), узяўшы за аснову выказванні:

✓ «Свой лёс канём не аб'едзеш».
✓ «Чалавек — гаспадар свайго лёсу».

**9.** На сэнс назвы апавядання «Memento mori» ёсць тры погляды. Паразважайце над пазіцыямі даследчыкаў. Які з варыянтаў для вас найбольш прымальны? Абгрунтуйце свой выбар.

✓ «Памяць пра смерць можа адводзіць ад спакусы рабіць памылкі, перасцерагчы, што не хопіць часу на адкупленне віны — жыццё кароткае» (*У. Калеснік*).
✓ «Чалавек не бессмяротны, і трэба пакінуць па сабе добры след на зямлі, каб яго ўспаміналі ўдзячным словам» (*Р. Шкраба*).
✓ «Нягодная смерць можа перакрэсліць годнае жыццё» (*В. Каваленка*).

**10.** Паспрабуйце скласці апавяданне-мініяцюру ў жанры лірычнай прозы, выяўляючы перажыванні героя.

## ПІМЕН ПАНЧАНКА

**1.** Пазнаёмцеся з аўтабіяграфіяй П. Панчанкі з кнігі «Пяцьдзясят чатыры дарогі». Паразважайце над наступнымі пытаннямі:

✓ Што прывяло П. Панчанку ў паэзію?
✓ Як пачыналіся яго паэтычныя сцежкі?
✓ Што з'яўлялася яго жыццёвымі ідэаламі?

**2.** Вызначце этапы творчасці П. Панчанкі і прасачыце эвалюцыю тэматыкі, праблематыкі і лірычнага героя.

[4] *Калеснік, У.* Янка Брыль : нарыс жыцця і творчасці / У. Калеснік. — Мінск : Нар. асвета, 1990. — 256 с.

**3.** Запоўніце наступную табліцу:

| ІНДЫВІДУАЛЬНАСЦЬ ТВОРЧАСЦІ П. ПАНЧАНКІ | | | |
|---|---|---|---|
| Рысы стылю | | Назва твора | Цытата з твора |
| Тэматыка і праблематыка | | | |
| Пафас | | | |
| Лірычны герой | | | |
| Дамінуючыя матывы | | | |
| Жанры | | | |
| Асноўная сістэма вершаскладання | | | |

**4.** Падбярыце рэпрадукцыі жывапісных палотнаў, сугучных са зместам верша «Родная мова» ці іншых (на выбар).

**5.** На аснове артыкула «Выяўленне аўтарскай пазіцыі ў творы. Публіцыстычнасць у паэзіі. Лірычны герой і аўтар» складзіце тэарэтыка-літаратурны міні-даведнік, дзе знойдуць адлюстраванне тэрміны і іх азначэнні і адпаведныя прыклады да іх.

**6.** У паэзіі П. Панчанкі яскрава прасочваецца грамадзянскі пафас. Але, звярнуўшыся да зборнікаў паэта, пакажыце, што ён звяртаўся і да пейзажнай, і да філасофскай, і да інтымнай лірыкі.

**7.** Складзіце невялікае вуснае выступленне па творчасці П. Панчанкі, пачаўшы яго словамі «*Сваімі вершамі Пімен Панчанка звяртаў увагу на спрадвечныя каштоўнасці чалавечага жыцця, на сапраўдную духоўнасць, на беражлівыя адносіны да прыроды…*».

**8.** Напішыце водгук на адзін з вершаў П. Панчанкі (на выбар).

## ІВАН МЕЛЕЖ

**1.** Іван Мележ прызнаваўся, што абапіраўся на традыцыі сваіх папярэднікаў: захапляўся талентам Я. Коласа ўсебакова маляваць душэўны свет

героя, філігранна выпісваць побыт і прыроду; углядаўся ў майстэрства К. Чорнага ствараць разгорнутыя псіхалагічныя малюнкі, выкарыстоўваць выразныя мастацкія дэталі.

Крытыкі адзначаюць, што І. Мележ па-новаму асэнсаваў драматызм паспешлівай і гвалтоўнай калектывізацыі, па-новаму раскрыў вобразы камуністаў.

Паразважайце над прыведзенымі вышэй ацэнкамі і ўнясіце ў наступную табліцу прыклады, якія выяўляюць, як адзначала В. Я. Ляшук, «Коласавы сляды» і «сляды Чорнага», традыцыі і наватарства І. Мележа ў рамане «Людзі на балоце».

| Традыцыі | Наватарства |
|---|---|
| Наследаванне таго, што стварылі пісьменнікі-папярэднікі | Далейшае развіццё лепшых рыс творчай спадчыны, пошукі новага |
| | |
| | |
| | |
| | |

**2.** Некаторыя крытыкі пісалі, што І. Мележ парушыў логіку характару, калі паказаў, што Ганна, гордая, смелая, рашучая, з моцным пачуццём уласнай годнасці, без усякага пратэсту, пакорна пайшла замуж за вясковага багацея Яўхіма. Пісьменнік тлумачыў у адказ, што «нельга зразумець герояў, не ўлічваючы духу часу», на ўчынак Ганны падзейнічала некалькі прычын. Якія гэта прычыны? Адлюструйце свой адказ, дапаўняючы наступную табліцу:

| Прычына | Уласнае тлумачэнне | Падмацаванне цытатай ці згадваннем эпізоду |
|---|---|---|
| 1. Па страшным законе беднасці | | |
| 2. Угаворы мачыхі | | |
| 3. Васіль не змагаўся за каханне | | «Чаго мне было дзяржаць яе?.. Сам голы!.. Ды яшчэ голую браць на шыю!» |

| Прычына | Уласнае тлумачэнне | Падмацаванне цытатай ці згадваннем эпізоду |
|---|---|---|
| 4. Традыцыі | | |
| 5. Аўтарытэт (статус) багацеяў | | |
| | | |
| | | |
| | | |

**3.** Параўнайце гераінь Я. Брыля («Галя») і І. Мележа (Ганна з «Людзей на балоце») і адзначце іх падабенства і адрозненне. Ці можна назваць гераінь нешчаслівымі? Хто з гераінь вам больш падабаецца?

**4.** На аснове прапанаваных ніжэй выказванняў складзіце эсэ пра асобу ці творчасць І. Мележа.

1) «Да ўздыху апошняга ён жыў лёсам людзей на балоце» (*Н. Гілевіч*).

2) «Зямля — аснова ўсёй Айчыне»: тэма зямлі ў творчасці Якуба Коласа і Івана Мележа (на прыкладзе «Новай зямлі» і «Людзей на балоце»).

3) «Прыгожая і калючая кветка палескай шыпшыны».

4) «Каб той зямлі, што каля цагельні»: тэма зямлі ў рамане «Людзі на балоце».

5) Васіль Дзяцел і Яўхім Глушак: падабенства непадобнага.

**5.** На аснове прапанаванай табліцы дакажыце, што жанр твора «Людзі на балоце» — раман.

| | | |
|---|---|---|
| **Гісторыка-літаратурны працэс** ⟹ | **РАМАН**<br>Кірунак (рэалізм)<br>1) Раманнае разуменне чалавека.<br>2) Раманны паказ чалавека.<br>3) Раманны канфлікт.<br>4) Шматпраблемнасць.<br>5) Раманная прастора і час.<br>6) Раманная кампазіцыя.<br>7) Разнастайнасць трактовак лёсаў і абставін.<br>8) Разнастайнасць мастацкіх сродкаў і прыёмаў.<br>⇑<br>**Эпічны род** | ⟸ **Аўтарская пазіцыя** |

**6.** Іван Мележ у рамане «Людзі на балоце» шырока карыстаецца ўнутранымі маналогамі і няўласна-простай мовай. Выберыце адзін з прыкладаў і абгрунтуйце, чаго дасягае аўтар, выкарыстоўваючы гэта.

**7.** На аснове схемы складзіце разгорнуты адказ пра стыль І. Мележа.




**8.** Разгледзьце схемы і праілюструйце іх тэарэтычны змест прыкладамі на аснове рамана «Людзі на балоце».



**Ідэя можа раскрывацца:**

- ✓ у назве твора;
- ✓ у эпіграфе да твора;
- ✓ у фармулёўцы з двух-трох сказаў твора;
- ✓ у выказванні героя;
- ✓ у аўтарскім разважанні;
- ✓ усім зместам твора.

**9.** Разгледзьце наступную схему і праілюструйце кожную пазіцыю цытатамі з рамана І. Мележа:




## УЛАДЗІМІР КАРАТКЕВІЧ

**1.** Паразважайце над наступнымі паэтычнымі радкамі Р. Барадуліна і выказваннем А. Мальдзіса, прысвечанымі У. Караткевічу.

Ахвярца верны неспакою
Над плынню крэўнае ракі.
І мова матчынай рукою
Яго сумленне трапяткое
Благаславіла на вякі (*Р. Барадулін*).

«Уладзімір Караткевіч апярэджваў свой час, узнёсся над паўсядзённасцю, над застойным канфармізмам да вышыняў, з якіх добра відаць шляхі, што лучаць мінулае з будучыняй, чалавека з людзьмі і народамі. Пісьменнік незвычайнага, рэнесанснага таленту, ён стаў зоркай першай велічыні на нацыянальным літаратурным небасхіле» (*А. Мальдзіс*).

**2.** Творчае крэда У. Караткевіча выказана ім у наступных радках: *«Беларусі… я паслужу, колькі будзе дадзена дзён, — многа або мала, але*

*да канца*». Як вы думаеце, ці спраўдзілася гэта? Свой адказ аргументуйце.

**3.** На аснове прапанаванай апоры і карыстаючыся даведачнай літаратурай, падрыхтуйце паведамленне на тэму «Унікальнасць таленту Уладзіміра Караткевіча».




**4.** Стварыце табліцу ці схему на тэму «Родава-жанравая разнастайнасць творчасці Уладзіміра Караткевіча».

**5.** На аснове зборнікаў паэзіі У. Караткевіча складзіце сваю міні-хрэстаматыю (5–7 вершаў), дзе будуць змешчаны вершы, якія вас найбольш уразілі. Падрыхтуйце адпаведную прэзентацыю.

**6.** Карыстаючыся даведачным матэрыялам па тэорыі літаратуры, дакажыце, што аповесць «Дзікае паляванне караля Стаха» мае ўсе прыкметы дэтэктыва.

**7.** Адной з прыкмет дэтэктыўнага жанру з'яўляецца вастрыня сюжэтнай лініі. Праілюструйце, як гэта назіраецца ў аповесці «Дзікае паляванне караля Стаха». Пры неабходнасці звярніцеся да навуковага вызначэння *сюжэта ў мастацкім творы*.

**8.** У пачатку аповесці «Дзікае паляванне караля Стаха» У. Караткевіч паказвае галоўнага героя старым чалавекам, апісанне якога прапануецца з вялікай доляй гумару. Паразважайце, для чаго выкарыстоўвае гэта аўтар.

**9.** Знайдзіце і патлумачце багатую сімволіку аповесці «Дзікае паляванне караля Стаха».

*Або:*

Складзіце даведнік «Сімволіка аповесці “Дзікае паляванне караля Стаха”» з называннем сімвалаў і сваімі каментарыямі.

**10.** Стварыце партрэтную галерэю вобразаў аповесці «Дзікае паляванне караля Стаха», карыстаючыся вытрымкамі з тэксту.

**11.** У. Караткевіч прызнаваўся, што «Чазенія» — адзін з яго любімых твораў. Як вы думаеце, чаму?

**12.** Складзіце невялікія эсэістычныя разважанні на аснове афарыстычнага выказвання У. Караткевіча «Незвычайнае, прыгожае ў жыцці трэба проста ўбачыць і адчуць».

**13.** У. Караткевіч прызнаваўся, што яго героі маюць рэальных прататыпаў. Таму Севярын Будрыс і Гражына Арсайла так уражваюць чытача. Аўтар надзяліў іх наступнымі рысамі: мэтанакіраванасцю, душэўнай адкрытасцю, шчырасцю, сумленнасцю, высакароднасцю, маральнай чысцінёй, вернасцю грамадскім і эстэтычным ідэалам. Пацвердзіце наяўнасць гэтых рыс сваімі разважаннямі, падмацоўваючы эпізодамі з аповесці.

**14.** Гераіня аповесці «Чазенія» Гражына Арсайла сцвярджае: «Не люблю “ўладароў”, “пакарыцеляў”, не люблю “гаспадароў жыцця”». Прачытайце верш П. Панчанкі «Не люблю я слова “пакарыцель”…». Параўнайце на аснове гэтага аўтарскія пазіцыі У. Караткевіча і П. Панчанкі.

**15.** Жанр твора «Чазенія» падаецца як аповесць. Патлумачце, чаму сам аўтар назваў яе паэмай у прозе.

**16.** Аповесць «Чазенія» мае адкрыты фінал. Як бы вы закончылі твор ці дапісалі эпілог?

**17.** Уявіце сабе, што вы рэжысёр, які працуе над экранізацыяй Караткевічавай спадчыны, у прыватнасці, аповесці «Чазенія». Каго б з вядомых акцёраў (айчынных і сусветна вядомых) вы абралі б на ролю Севярына і Гражыны? Абгрунтуйце свой адказ.

**18.** Чаму вершы «Прарок», «Нявесце Каліноўскага», «На пачатак “Каласоў”» называюць перадгісторыяй напісання рамана «Каласы пад сярпом тваім»?

**19.** На аснове прапанаванай схемы падрыхтуйце адказ на тэму «Сістэма вобразаў у рамане Уладзіміра Караткевіча "Каласы пад сярпом тваім"».




**20.** Назва рамана У. Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім» заключае ў сабе глыбокі метафарычны сэнс. Як вы разумееце дадзеную метафару?

**21.** Звярніце ўвагу на назвы першай і другой кніг рамана «Каласы пад сярпом тваім». Як вы разумееце сэнс гэтых назваў?

**22.** Які, на вашу думку, самы рамантычны эпізод у творах У. Караткевіча, з якімі вы тэкстуальна знаёміліся?

**23.** Праілюструйце кожную з пазіцый, адлюстраваную ў схеме, прыкладамі з рамана «Каласы пад сярпом тваім».




**24.** Напішыце міні-эсэ пра У. Караткевіча, паклаўшы ў аснову словы В. Быкава:

- ✓ «Ён быў вельмі шчодры ў жыцці і мудры ў літаратуры».
- ✓ «Можа, нехта напіша лепш, можа, нехта напіша горш, але так, як напісаў Караткевіч, не напіша ніхто».

**25.** Падрыхтуйце эсэ на тэму «Уладзімір Караткевіч — беларускі Вальтэр Скот».

**26.** Складзіце турыстычную карту «Пуцявінамі Уладзіміра Караткевіча і сцежкамі яго герояў».

## АНДРЭЙ МАКАЁНАК

**1.** Паразважайце над словамі Я. Усікава пра А. Макаёнка: «Пісьменнік валодаў рэдкім талентам сатырыка-камедыёграфа і баявітым наступальным характарам, што і абумовіла выключнасць, фенаменальнасць яго асобы і творчасці».

**2.** У трагікамедыі «Зацюканы апостал» А. Макаёнак не выкарыстоўвае ніводнага ўласнага імя. Паразважайце чаму. Якую мастацкую задачу гэтым вырашае аўтар?

**3.** Ствараючы сатырычныя камедыі, А. Макаёнак найперш працягвае нацыянальныя традыцыі. Успомніце, хто з беларускіх драматургаў працаваў у гэтым рэчышчы. Складзіце схему «Традыцыі і наватарства Макаёнка-драматурга».

**4.** Даследчыкі адзначаюць, што для адметнага стылю А. Макаёнка характэрны *гратэскавы від тыпізацыі, карыкатурнасць вобразаў і карцін, праўдзівы і ўмоўна-фантастычны планы, кантраст, сімвал, гіпербалізацыя, камізм, сатырычная завостранасць, шаржыраванне, спалучэнне элементаў камедыі і трагедыі, народнага лубка і гераічнай драмы*. Пацвердзіце гэта прыкладамі з твораў драматурга.

**5.** Прымяніце прапанаваную схему пры выяўленні аўтарскай пазіцыі драматычных твораў А. Макаёнка.



**6.** Успомніце змест артыкула К. Крапівы «Канфлікт — аснова п'есы». Вызначце канфлікты і іх віды ў п'есах «Зацюканы апостал» ці «Пагарэльцы».

**7.** Карыстаючыся прыведзенай ніжэй схемай, паразважайце, як выяўляецца канфлікт у п'есах А. Макаёнка.




**8.** Выкарыстоўваючы памятку-арыенцір, пракаменціруйце, як характарызуе героя мова (у залежнасці ад суразмоўцы), пацвердзіце свае меркаванні прыкладамі (цытатамі з тэксту).




**9.** Складзіце лаканічную (літаральна з некалькіх сказаў) памятку для акцёраў, якія будуць выконваць ролі герояў п'есы «Зацюканы апостал».

**Узор:**

Тата — знешне добрапрыстойны, ветлівы, дэмакратычны, не пазбаўлены эрудыцыі і пачуцця гумару, але хітры і крывадушны...

**10.** Паразважайце над жыццёвым крэда, якое стварыў для сябе Малыш: «*Сучасны Цэзар павінен быць абаяльным, каб выклікаць пачуцці прыязнасці, павінен умець прыкідвацца праўдзівым, каб нахабна хлусіць, прыкідвацца чэсным, каб ашукваць, шчырым, каб фальшывіць, добрым*

*і ласкавым, падпісваючы смяротны прыгавор*». Чаму, на вашу думку, Малыш — вобраз умоўны, складаны і супярэчлівы?

**11.** Ці згодны вы, што п'еса «Зацюканы апостал» — твор без станоўчага героя? Адказ аргументуйце.

**12.** Чаму камедыя «Пагарэльцы» не страціла актуальнасці на сённяшні дзень?

**13.** У чым бачыцца сімвалічны сэнс назваў п'ес А. Макаёнка?

**14.** Падрыхтуйце паведамленне на тэму «Сцэнічныя лёсы п'ес Андрэя Макаёнка» (на выбар).

**15.** Якую тэатральную афішу (дэкарацыі) вы прапанавалі б да п'ес «Зацюканы апостал» і «Пагарэльцы»? (Малюнак або вуснае апісанне з наступнай абаронай працы.)

# Беларуская літаратура перыяду 1966–1985 гадоў

**1.** Стварыце **літаратурную карту** вашага рэгіёна: пазначце на ёй месцы нараджэння пісьменнікаў-землякоў, іх літаратурны і жыццёвы шлях, памятныя мясціны і інш.




**2.** Правядзіце **міні-дыспут** па наступным выказванні: «*“Масавая літаратура” добра вядомая і ў нашай краіне. Што вы можаце сказаць пра яе пашырэнне ў Беларусі? Якія сюжэты, жанры, героі прывабліваюць беларускага чытача, на ваш погляд, і чаму?*».

☝ Каб абгрунтаваць свой пункт гледжання, складзіце табліцу па наступным узоры:

| Тэзіс | Аргумент | Цытата |
|---|---|---|
| | | |

**3.** Ці згодныя вы з наступным тэзісам: «Ідэалы “грамадства спажывання” хутка пашыраюцца і ў Беларусі, хаця такім наша грамадства назваць

нельга». Якія станоўчыя і якія адмоўныя рысы гэтага працэсу існуюць у нашай краіне, на ваш погляд? Які ўплыў гэта можа мець на беларускае грамадства? На беларускую літаратуру? Культуру?

Напішыце **рэцэнзію** на адзін з твораў масавай літаратуры і абмяркуйце яе ў класе.

###  Памятка-парада для падрыхтоўкі рэцэнзіі

1) Знаходзячы ў дадатковай літаратуры неабходны для рэцэнзіі матэрыял, імкніцеся занатаваць яго так, як бы вы яго рабілі ў вуснай форме.

2) Рыхтуючы рэцэнзію, памятайце: слухачам павінна быць цікава.

3) Абапірайцеся на правілы напісання рэцэнзіі (пачатак павінен зацікавіць слухачоў; кампазіцыя залежыць ад тэмы і жанру выступлення; аргументуйце свае думкі цытатамі; карыстайцеся праблемным спосабам выкладання; падтрымлівайце цікавасць слухачоў на працягу ўсяго выступлення).

4) Умейце зразумела выказаць сваё меркаванне: слухачам важна, як вы самі ставіцеся да гэтага пытання ці праблемы.

**4.** Падрыхтуйце **вуснае выказванне** на адну з прапанаваных тэм: «Чаму ваенная і вясковая тэматыка цікавіць беларускую літаратуру да нашага часу?», «Хто з пісьменнікаў — прызнаныя лідары ў распрацоўцы ваеннай, вясковай і маральна-этычнай праблематыкі?».

**5.** Якія творы літаратуры другой паловы 60-х — першай паловы 80-х гадоў XX стагоддзя вам асабліва падабаюцца? Хто з пісьменнікаў гэтай пары больш глыбока зразумеў эпоху, стварыў найбольш запамінальныя вобразы герояў? Падрыхтуйце **мультымедыйную прэзентацыю**, прысвечаную творчасці гэтага пісьменніка.

**6.** Падрыхтуйце **даклад** на тэму «Творчыя сувязі пісьменнікаў Беларусі і Расіі ў 1966–1985 гадах».

**7.** Уявіце, што з гісторыі літаратуры знік перыяд 1966–1985 гадоў. Паразважайце, што страцілася ў ёй.

**8.** Гэтую стужку неабходна запоўніць прозвішчамі пісьменнікаў, пералік твораў якіх знаходзіцца ніжэй (выкарыстайце веды, атрыманыя ў 10 класе).

1) Аўтар апавядання «Роднае карэнне».

2) Самы вядомы ў Беларусі байкапісец.




3) Назва апавядання гэтага пісьменніка перакладаецца як «Помні аб смерці».

4) Аўтар апавяданняў «Ворагі», «Кветка пажоўклая» і інш.

5) Гэты паэт сцвярджаў, што «...рэчкі птушкамі створаны».

6) Аўтар верша «О Беларусь, мая шыпшына».

7) Гэты паэт у вершы «Родная мова» пісаў: «Песню сваю, мову сваю // Я да грудзей прытульваю».

8) Героі аднаго з раманаў гэтага пісьменніка знаходзіліся ў пошуках будучыні.

9) Аўтар п'есы «Зацюканы апостал».

10) Аўтар рамана «Запіскі Самсона Самасуя».

11) Аўтар хронікі, якая павінна была складацца з пяці раманаў, рукапісныя нататкі апошніх называюцца «За асакою бераг» і «Праўда вясны».

12) Навела гэтага пісьменніка называецца «Нябачная калекцыя».

13) Аўтар паэмы «Люцыян Таполя».

14) Адзін з вершаў гэтага паэта называецца «Пахне чабор».

15) Аўтар апавядання «Бондар».

16) Продак гэтага пісьменніка ўдзельнічаў у паўстанні на чале з Кастусём Каліноўскім.

# ІВАН ШАМЯКІН

**1.** Стварыце віртуальны музей (ці сайт), прысвечаны творчасці І. Шамякіна.

**2.** Растлумачце сэнс назвы аповесці «Непаўторная вясна». (Выкажыце ўласны пункт погляду.) Прапануйце ўласныя назвы твора І. Шамякіна. Свой пункт гледжання абгрунтуйце цытатамі ці пераказам адпаведных урыўкаў твора.

**3.** У які час быў напісаны раман «Сэрца на далоні»? Працытуйце радкі беларускіх ці рускіх паэтаў пра гэтую цікавую эпоху. Чым, якімі рысамі канец 1950-х — 1960-я гады блізкія нашым гадам?

| Канец 1950-х — 1960-я гады | Тэзіс (агульнае) | Сучаснасць |
|---|---|---|
| | | |

**4.** Падрыхтуйце **выказванне** па тэмах «Непаўторны свет непаўторных пачуццяў», «Шляхі-дарогі Пеці і Сашы да шчасця» (на выбар).

**5.** Паразважайце над тэзісам «Работа — не воўк, у лес не ўцячэ. Напрацуюся яшчэ». Ці можа быць па-сапраўднаму шчаслівай Люба?

**6.** Напішыце **міні-сачыненне** «Быць шчаслівым — ...». У працэсе напісання сачынення выкарыстайце вершы М. Танка.

**7.** Правядзіце **інтэрв'ю** з сябрамі, знаёмымі, родзічамі і запоўніце табліцу:

| Удзельнікі | Як вы разумееце, што такое шчасце? | Якога чалавека можна назваць шчаслівым? |
|---|---|---|
| 1. Мама, 35 год | | |

**8.** Напішыце **сачыненне** на адну з прапанаваных тэм: «Дзве жыццёвыя пазіцыі ў рамане І. П. Шамякіна "Сэрца на далоні" (Яраш і Шыковіч — Гукан)»; «Маладое пакаленне ў рамане І. П. Шамякіна»; «Стыль шамякінскіх раманаў і аповесцей».

**9.** Напішыце **сцэнарый** тэлевізійнага роліка па творы І. Шамякіна «Гандлярка і паэт» для жыхароў Еўропы, які б выклікаў жаданне паглядзець фільм па творы.

**10.** Дапамажыце кветцы аднавіць пялёсткі, у якіх пазначаюцца назвы твораў І. Шамякіна:




# ВАСІЛЬ БЫКАЎ

**1.** Знайдзіце і працытуйце самыя цікавыя выказванні пра аповесць В. Быкава «Знак бяды», якія належаць вядомым дзеячам культуры.

**2.** Зрабіце супастаўляльную характарыстыку Петрака і Сцепаніды Багацькаў у выглядзе табліцы, падмацоўваючы свае тэзісы цытатамі з тэксту (табліцу працягніце самастойна).

| План | Пятрок | Сцепаніда |
|---|---|---|
| 1. Партрэт | | |
| 2. Біяграфія | | |
| 3. Рысы характару | | |
| 4. Погляды, перакананні | | |
| 5. Адносіны да іншых | | |
| 6. Адносіны іншых да героя | | |

**3.** Падрыхтуйце вуснае сачыненне-апісанне, прысвечанае знешняму выгляду Гужа або Каландзёнка, дапоўніце слоўныя партрэты маляванымі (пажадана з дапамогай камп'ютарнай тэхнікі).

**4.** Паразважайце над пытаннямі «Што агульнага паміж "Знакам бяды" Васіля Быкава і "Палескай хронікай" Івана Мележа?», «Ці закранаецца ў "Знаку бяды" праблема "чалавек і зямля"?»

**5.** Правядзіце дыспут, прысвечаны абмеркаванню пытання «Як вырашаецца праблема “чалавек і ўлада” ў рамане У. Караткевіча “Каласы пад сярпом тваім”, “Палескай хронікі” І. Мележа, творах В. Быкава? Ці ставяцца героі Караткевіча, падобна быкаўскім, у экстрэмальныя сітуацыі, перад выбарам?».

**6.** Складзіце вусныя апавяданні на тэмы «Філасофскі змест “Знака бяды” В. Быкава», «За што я люблю творы В. Быкава», «Васіль Быкаў і сучаснасць».

**7.** На якую з прапанаваных тэм вы пісалі б сачыненне: «Усё мінае — Гонар не мінае…», «Рыцар свабоды і сумлення», «Пятрок і Сцепаніда: героі ці ахвяры», «Шлях чалавека да здрады ў аповесцях Васіля Быкава»? Свой выбар абгрунтуйце.

**8.** Складзіце **віктарыну** паводле выказванняў герояў аповесцей «Сотнікаў» і «Знак бяды» на тэму «Хто прамаўляе гэтыя словы?».

**9.** Прагледзіце **фільм** Ларысы Шапіцька «Узыходжанне» па аповесці В. Быкава «Сотнікаў» і падумайце, чаму ён так называецца.

**10.** Уявіце, што вам давялося сустрэцца з героямі твораў В. Быкава. Якія пытанні вы б ім задалі? Напішыце прагназуемыя адказы на іх.

| Герой | Твор | Пытанне | Адказ |
|---|---|---|---|
| Пятрок | | | |
| Сцепаніда | | | |
| Гуж | | | |
| Сотнікаў | | | |

**11.** Дапамажыце кветцы аднавіць пялёсткі, у якіх пазначаюцца назвы твораў В. Быкава:



# ЭРНЭСТ ХЕМЕНГУЭЙ

**1.** Падрыхтуйце **вусную замалёўку-апісанне** паядынку старога чалавека і рыбы, выкарыстоўваючы аўтарскія словы і канструкцыі.





**2.** Стварыце кадраплан самай кульмінацыйнай часткі твора.

**3.** Падрыхтуйце **вусны часопіс**, прысвечаны жыццю і творчасці Э. Хеменгуэя.

**4.** Запішыце ад родных ці знайдзіце з дапамогай інтэрнэт-рэсурса адну ці некалькі легенд ці паданняў, прысвечаных прыродзе (возеру, рацэ і інш.).

**5.** Параўнайце словы Э. Хеменгуэя: «Хлопчык таксама быў засмучаны, і мы папрасілі ў яе (рыбы) прабачэння...» і словы з паэмы М. Гусоўскага, звернутыя да пушчы: «Даруй, мая родная, усё мне...». Паспрабуйце зрабіць параўнальны аналіз гэтых твораў.

**6.** Падрыхтуйце **выразнае чытанне** ўрыўкаў з твораў беларускіх пісьменнікаў, у якіх чалавек паказаны ў адзінстве з прыродай і ў саперніцтве з ёю за лідарства.

**7.** Распрацуйце **сцэнарый і рэжысёрскі каментарый** урыўка твора. Эпізод можна ўзяць любы, напрыклад «Паядынак».

**8.** Напішыце **сачыненне** на адну з тэм: «Чалавек — сябар ці вораг прыроды», «Што чакае нас у будучыні».

**9.** Дапамажыце кветцы аднавіць пялёсткі, у якіх пазначаюцца назвы твораў Э. Хеменгуэя:



# МІХАСЬ СТРАЛЬЦОЎ

**1.** Падрыхтуйце **мультымедыйную прэзентацыю**, прысвечаную жыццёваму і творчаму шляху М. Стральцова.

**2.** Напішыце **ліст** ад імя галоўнага героя апавядання М. Стральцова «Сена на асфальце», у якім Віктар расказвае пра тое, як склаўся яго далейшы лёс (ці ліст ад імя дзядзькі Ігната).

**3.** Паспрабуйце параўнаць будову твораў М. Стральцова «Сена на асфальце» і Міхаіла Лермантава «Герой нашага часу». Што агульнае і адрознае ў іх? Свае назіранні падайце ў выглядзе табліцы:

| Пісьменнік, твор | Кампазіцыя | Сюжэт і яго асноўныя элементы | Пазасюжэтныя элементы | Назвы раздзелаў, іх семантыка |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |

**4.** Стварыце **вусную замалёўку-апісанне** касьбы дзядзькі Ігната і Віктара ў горадзе.

**5.** «Вайна наклала глыбокі адбітак на нашу псіхалогію, на наша светаадчуванне, вызначыла ў значнай ступені нашу маральна-філасофскую арыентацыю (вядома, не толькі ў негатыўным, але і ў станоўчым сэнсе, у сэнсе нашай большай жыццястойкасці, больш устойлівага аптымізму) …Мы, жывыя сведкі вайны, не маем маральнага права маўчаць», — адзначыў у адказе на пытанні анкеты часопіса «Маладосць» да 30-годдзя з Дня Перамогі Анатоль Вярцінскі, сказаў так, як пісаў у сваёй «Першай кнізе» Іван Мележ, як не адзін раз падкрэсліваў у сваіх творах Іван Навуменка. «Не маем маральнага права маўчаць» — гэтыя радкі можна ўзяць эпіграфам да ўсёй паэзіі (і не толькі паэзіі, але і прозы) пасляваеннага пакалення. **Паспрабуйце самастойна падабраць яшчэ некалькі эпіграфаў** да творчасці «філалагічнага пакалення» і творчасці М. Стральцова.

**6.** Напішыце **водгук** на любімы твор М. Стральцова.

**7.** Складзіце **анталогію** з лепшых, на вашу думку, паэтычных твораў М. Стральцова.

**8.** Падрыхтуйце **рэферат** на адну з прапанаваных тэм: «Горад і Вёска як вобразы-сімвалы ў сучаснай беларускай прозе», «Тэма дзяцін-

ства ў творчасці Міхася Стральцова», «Міхась Стральцоў — даследчык беларускай літаратуры», «Час і людзі ў паэзіі Міхася Стральцова».

**9.** Паспрабуйце напісаць эсэ на літаратурную тэму.

 **Памятка-парада для падрыхтоўкі і напісання эсэ**

1) Эсэ перадае індывідуальнае бачанне і ацэнку, расказвае аб нечым праз уласнае «я».

2) Эсэ можа ўтрымліваць як апісанне з'яў, падзей, так і разважанні аўтара, яго роздум.

3) Эсэ мае свабодную кампазіцыю, успрымаецца як плынь свядомасці, думак.

4) Эсэ пішацца вобразнай, арыентаванай на размоўную, мовай.

5) Эсэ мае невялікі аб'ём.

**Віды эсэ па жанрава-стылістычнай форме**: эсэ-нататка; эсэ-мастацкая замалёўка; эсэ-партрэт; эсэ-біяграфія (аўтабіяграфія); эсэ-ўспамін; эсэ-дзённікавы запіс; эсэ-водгук.

 **Асноўныя патрабаванні да эсэ**

1) Канкрэтная тэма.
2) Навукова-канкрэтная аснова.
3) Падкрэсленая суб'ектыўнасць выказвання.
4) Арыентаванасць на жывую гутарковую мову.
5) Права на дадумванне, фантазію, вымысел.
6) Свабодная кампазіцыя.
7) Камунікатыўнасць, адрасаванасць чытачу.
8) Праблемнасць.
9) Арыентацыя на мэту.

**10.** Дапамажыце кветцы аднавіць пялёсткі, у якіх пазначаюцца назвы зборнікаў М. Стральцова:



# НІЛ ГІЛЕВІЧ

**1.** Запішыце ў сшытках асацыятыўны рад слоў ад слова «чалавечнасць». Побач напішыце словы, якія не стасуюцца з паняццем «чалавечнасць». Абмяркуйце свой выбар у пары, потым у групе, выберыце (1–2) самыя яркія словы. Складзіце сінквейн да паняцця «чалавечнасць»:

Назва
Два прыметнікі
Тры дзеясловы
Сказ (асноўная думка) з чатырох слоў
Сінонім назвы (назоўнік)

**2.** Напішыце **эсэ-мініяцюру** «Якім я бачу чалавека XXI стагоддзя» або «Як стаць чалавекам...», «Каб не было сорамна перад нашчадкамі...».

**3.** Паразважайце над пытаннем «Чаму некаторыя людзі гавораць, што патрыятызм з'яўляецца не вельмі важным?». Падбярыце антонімы да слова-паняцця «патрыятызм».

**4.** Ці з'яўляецца патрыётам лірычны герой рамана Н. Гілевіча «Родныя дзеці»? Адкажыце разгорнута на пытанне, выкарыстоўваючы цытаты з тэксту, якія сведчаць пра адносіны да Радзімы; да прыроды; да культуры і традыцый; да продкаў; да маці; да сусветных праблем і г. д.

**5.** Падрыхтуйце **даклад** на тэму «"Родныя дзеці" Ніла Гілевіча як узор сучаснага паэтычнага эпасу».

**6.** Якія творы Н. Гілевіча найбольш вам падабаюцца і чаму? Абгрунтуйце свой выбар. Пастарайцеся **завучыць на памяць** некалькі радкоў з іх, каб ваш адказ быў аргументаваны.

**7.** Параўнайце індывідуальныя стылі Н. Гілевіча і А. Куляшова. Свае назіранні прадстаўце ў выглядзе канцэптуальнай табліцы:

| План | Ніл Гілевіч | Аркадзь Куляшоў |
|---|---|---|
| Гады жыцця | | |
| Пачатак літаратурнай дзейнасці | | |

| План | Ніл Гілевіч | Аркадзь Куляшоў |
|---|---|---|
| Асноўныя этапы творчасці | | |
| Асноўныя тэмы | | |
| Асноўныя жанры | | |
| Лірычны герой | | |
| Традыцыі і наватарства | | |
| Ацэнка крытыкаў | | |
| Іншае | | |

**8.** Дапамажыце кветцы аднавіць пялёсткі, у якіх пазначаюцца назвы зборнікаў Н. Гілевіча:




## ІВАН ЧЫГРЫНАЎ

**1.** Зрабіце **цытатную характарыстыку** старога Дземідзёнка з твора І. Чыгрынава «Дзівак з Ганчарнай вуліцы». Выкарыстайце яе пры адказе на пытанне «Якую функцыянальную ролю выконвае партрэтная характарыстыка ў апавяданні?».

**2.** Перакажыце тэкст, змяніўшы асобу апавядальніка з 3-й на 1-ю такім чынам, каб Дземідзёнак «расказваў» слухачу пра сваё жыццё.

**3.** Узгадайце і пералічыце творы, у якіх вобразы птушак адыгрываюць сімвалічнае значэнне, раскрыйце змест вобразаў-сімвалаў птушак.

**4.** Выкарыстайце прыём мастацкага расказвання — дапішыце канцоўку твора і правядзіце конкурс на лепшы эпілог.

**5.** Стварыце **кадраплан апавядання** І. Чыгрынава «У ціхім тумане», кожны кадр падпішыце сказам, які перадае яго асноўную думку.

**6.** Паспрабуйце «разгарнуць» тэму калектывізацыі ў апавяданні І. Чыгрынава. Што пры гэтым можа змяніцца ў нашым стаўленні да герояў твора?

**7.** Падрыхтуйце **міні-дыспут** па праблемным пытанні «Ці выклікае спачуванне ў чытача маці здрадніка (па старонках апавядання Івана Чыгрынава “У ціхім тумане”)?».

**8.** Напішыце **сачыненне** на адну з прапанаваных тэм: «Іван Чыгрынаў — майстар мастацкай дэталі», «Іван Чыгрынаў — партрэтыст», «Майстэрства псіхалагічнага аналізу ў прозе Івана Чыгрынава», «Адлюстраванне падзей Вялікай Айчыннай вайны ў творах К. Чорнага, В. Быкава і І. Чыгрынава», «Рысы індывідуальнага стылю пісьменніка».

**9.** Дапамажыце кветцы аднавіць пялёсткі, у якіх пазначаюцца назвы зборнікаў І. Чыгрынава:




## ІВАН НАВУМЕНКА

**1.** Падрыхтуйце **рэферат** пра жыццёвы шлях І. Навуменкі, закраніце ў ім пытанне пра тое, як суадносяцца жыццё і творчасць пісьменніка.

**2.** Складзіце кароткую **анталогію** з лепшых, на вашу думку, выказванняў І. Навуменкі — даследчыка літаратуры.

**3.** **Запішыце ў літаратурным сшытку параўнальную характарыстыку эпічнага і лірычнага твора** ў выглядзе табліцы. Якімі асаблівасцямі яны адрозніваюцца?

| План | Эпас | Лірыка |
|---|---|---|
| Мэта твораў | | |

| План | Эпас | Лірыка |
|---|---|---|
| Прадмет твораў | | |
| Змест твораў | | |
| Функцыя мовы | | |
| Жанры твораў | | |
| Ключавыя паняцці пры аналізе мастацкага твора | | |

Паспрабуйце з дапамогай табліцы адказаць на пытанне «Якая стылявая плынь беларускай прозы выразна выявілася ў творчасці Івана Навуменкі?».

**4. Прачытайце адно з пазапраграмных апавяданняў** І. Навуменкі і прааналізуйце яго ў адзінстве зместу і формы па наступным плане:

1) Агульная характарыстыка гістарычных абставін, у якіх быў напісаны твор або пра якія напісаны твор.

2) Месца твора ў сістэме літаратурнай дзейнасці пісьменніка:
— да якога перыяду ён адносіцца;
— ці працаваў аўтар у час напісання твора над іншымі творамі.

3) Звесткі аб першай публікацыі твора, аб уплыве на свядомасць чытача, аб крытычных ацэнках твора (звяртаецца ўвага і на новае прачытанне).

4) Характарыстыка:
— часу, падзей, персанажаў, якія апісваюцца ў творы;
— асаблівасцей сюжэта, кампазіцыі, стылю твора;
— праблематыкі, канфлікту;
— мастацкіх сродкаў;
— ідэйнага зместу твора.

5) Аналіз філасофскай канцэпцыі аўтара.

6) Вашы асабістыя адносіны да мастацкага твора.

7) Прывядзіце прыклады ўрыўкаў твора, у якіх ёсць пацверджанні вашым разважанням аб асаблівасцях кампазіцыі, стылю, аб філасофскай канцэпцыі аўтара.

8) Месца твора ў гісторыі нацыянальнай і сусветнай літаратуры.

**5.** Напішыце **ліст** да вашых сяброў-сучаснікаў (аднакласнікаў) ад імя галоўнага героя апавядання І. Навуменкі «Сямнаццатай вясной» Цімоха.

**6.** Асаблівасці стылю Навуменкі-апавядальніка: афарыстычнасць, лірызм, павышаная экспрэсіўнасць, трапнасць мастацкай дэталі, тропаў, своеасаблівасць рытмікі. Дакажыце, што гэта менавіта так.

**7.** Выпішыце з апавяданняў І. Навуменкі ў літаратурны сшытак самыя яскравыя, на ваш погляд, **тропы** — сродкі мастацкай выразнасці, а таксама **наватворы** (неалагізмы), **дыялектызмы** і ўвогуле незразумелыя словы. Патлумачце іх значэнне і раскрыйце ролю.

**8.** Падрыхтуйце і правядзіце літаратурную **канферэнцыю** на тэму «Маладое пакаленне на вайне (паводле твораў І. Навуменкі, В. Быкава, І. Шамякіна)».

**9.** Дапамажыце кветцы аднавіць пялёсткі, у якіх пазначаюцца назвы зборнікаў І. Навуменкі:




## РЫГОР БАРАДУЛІН

**1.** Працытуйце на памяць афарыстычныя радкі з вершаў Р. Барадуліна. Паспрабуйце на іх аснове зрабіць вывад пра асаблівасці барадулінаўскага светаўспрымання.

**2.** Падрыхтуйце вусныя **паведамленні** на адну з тэм: «Рыгор Барадулін і сучаснасць», «Паэзія кахання Рыгора Барадуліна», «Рыгор Барадулін — майстар метафары», «Мой Барадулін: думкі і назіранні».

**3.** Паразважайце над пытаннем «Як Рыгор Барадулін раскрывае ў сваіх творах тэму жыцця і смерці?». Ці можна назваць яго пазіцыю аптымістычнай? Свае адказы пацвердзіце аналізам твораў.

**4.** Напішыце **сачыненне** на адну з тэм: «Часовае і вечнае ў творчасці Рыгора Барадуліна», «Шлях да Бога (на матэрыяле апошніх зборнікаў Рыгора Барадуліна "Ксты", "То Ве!")», «У кожнага свая зямля».

**5.** Намалюйце (вусна) партрэты лірычнага героя паэзіі Р. Барадуліна 1960-х і 1990-х гадоў. Як ён суадносіцца з вашым асабістым ідэалам, разумен-

нем дабра і зла, станоўчага і адмоўнага, вечнага і часовага ў чалавечым жыцці?

**6.** Параўнайце індывідуальныя стылі Р. Барадуліна і М. Танка.

| План | Максім Танк | Рыгор Барадулін |
|---|---|---|
| Гады жыцця | | |
| Пачатак літаратурнай дзейнасці | | |
| Асноўныя этапы творчасці | | |
| Асноўныя тэмы | | |
| Асноўныя жанры | | |
| Лірычны герой | | |
| Традыцыі і наватарства | | |
| Ацэнка крытыкаў | | |
| Іншае | | |

**7.** Выпішыце радкі з вершаў Р. Барадуліна, якія сведчаць пра гуманізм яго пазіцыі, светаадчування.

**8.** Што такое аўтарскія неалагізмы? Паспрабуйце скласці **слоўнік аўтарскіх неалагізмаў** Р. Барадуліна (на матэрыяле двух зборнікаў).

**9.** Назавіце вечныя матывы (тэмы) беларускай літаратуры. Чаму яны пераважна маральна-этычныя? Ці можна назваць Р. Барадуліна песняром вечных тэм? Паспрабуйце напісаць **верш** на адну з тэм.

**10.** Дапамажыце кветцы аднавіць пялёсткі, у якіх пазначаюцца назвы зборнікаў Р. Барадуліна:



# ГЕНРЫХ БЁЛЬ

**1.** Падрыхтуйце **паведамленне** пра жыццёвы і творчы шлях Г. Бёля, адзначыўшы ў ім:

— агульную грамадска-гістарычную характарыстыку часу, на які прыпадае творчасць пісьменніка;

— асноўныя асаблівасці развіцця літаратурнага працэсу;

— жыццёвы шлях пісьменніка (звесткі з біяграфіі, грамадзянская пазіцыя, уплыў сацыякультурнага кантэксту на творчасць і г. д.);

— творчы шлях пісьменніка (пачатак літаратурнай дзейнасці, этапы ці перыяды творчай эвалюцыі, агульная характарыстыка мастацкіх асаблівасцей найбольш значных твораў, кніг, зборнікаў);

— значэнне творчасці пісьменніка для развіцця нацыянальнай літаратуры (у тым ліку ацэнкі яго сучасным літаратуразнаўствам, крытыкай), суаднесенасць з сусветным літаратурным працэсам.

**2.** Падбярыце **эпіграф** з твораў беларускіх пісьменнікаў, творчасць якіх вывучалася ў 10 ці 11 класе, які раскрывае своеасаблівасць стылю Г. Бёля.

**3.** Г. Бёля называюць пісьменнікам «пакалення, якое вярнулася» (разам з Вольфгангам Борхертам, аўтарам вядомай драмы «За дзвярыма», 1947). Іх параўноўваюць з тымі, хто вярнуўся з Першай сусветнай, — са «страчаным пакаленнем». Правядзіце паралель паміж пакаленнем, якое вярнулася, і страчаным пакаленнем. Падрыхтуйце **паведамленні** пра іх прадстаўнікоў.

**4.** Правядзіце **міні-дыспут** па пытанні «Ці з’яўляецца актуальным змест рамана Г. Бёля, напісанага ў 1954 годзе?».

**5.** У беларускім тэксце рамана, які выйшаў у 1996 годзе ў серыі «Школьная бібліятэка», **шмат памылак**. Ці **заўважылі** вы іх? І ці здаецца вам памылкай або як вы маглі б **растлумачыць няправільна напісанае слова** ў двух месцах рамана: «У суправаджэнні экзістэнцыяльных гукаў аргана» (с. 24), «...і ты магла б там унізе накруціць уласны экзістэнцыяналістычны фільм» (с. 104)? Як гэтае слова павінна гучаць правільна? І што яно азначае? І колькі, на вашу думку, каштуе непрафесійнасць?

**6.** Напішыце **ліст** у сучаснасць ад імя Марціна Баха, сына Раймунда і Нэлы, і Генрыха Брылаха, сына Вільмы і Генрыха. Ці будуць адрозніваца гэтыя лісты?

**7.** Пералічыце імёны вядомых беларускіх пісьменнікаў, якія, падобна Г. Бёлю, часта карыстаюцца прыёмамі стварэння ўнутраных маналогаў пры паказе духоўнага стану герояў, і назавіце іх творы.

8. Падрыхтуйце **мультымедыйную прэзентацыю на тэму «Дзяцінства абвінавачвае»** на матэрыяле сусветнай і беларускай літаратуры другой паловы XX стагоддзя.

## ЯЎГЕНІЯ ЯНІШЧЫЦ

1. Напішыце **эсэ** «Ці існуе жаночая паэзія?». Выкажыце ў ім думку пра тое, што аб'ядноўвае і адрознівае творчасць Г. Ахматавай (М. Цвятаевай) і Я. Янішчыц.

2. Падрыхтуйце **мультымедыйную прэзентацыю** пра жыццёвы і творчы шлях Я. Янішчыц.

3. Знайдзіце верш Я. Янішчыц пра паэта і паэзію, падрыхтуйце яго *выразнае чытанне*. Паспрабуйце на канкрэтных прыкладах паказаць сэнсавызначальную і эстэтычную ролю рытму, тропаў, асаблівасці кампазіцыі, паэтычнага сінтаксісу і гукапісу. Як асаблівасці паэтычнай формы звязаны са зместам твора?

4. Зрабіце поўны аналіз верша Я. Янішчыц, які вам асабліва спадабаўся, выкарыстоўваючы алгарытм:
   1) Час напісання.
   2) Біяграфічны і фактычны каментарый.
   3) Ідэйны змест:
      а) галоўная тэма;
      б) асноўная думка;
      в) эмацыянальная афарбоўка пачуццяў, адлюстраваных у вершы ў іх дынаміцы або статычна;
      г) знешняе ўражанне і ўнутраная рэакцыя на яго;
      д) перавага грамадзянскіх або асабістых інтанацый аўтара.
   4) Структура твора:
      I) параўнанне асноўных вобразаў:
         а) па падабенстве;
         б) па кантрасце;
         в) па асацыяцыі;
      II) асноўныя выяўленчыя сродкі, выкарыстаныя аўтарам: метафара, эпітэт, метанімія, параўнанне, алегорыя, сімвал, гіпербала, літота, іронія (як троп), сарказм, перыфраза, мастацкая дэталь;
      III) інтанацыйна-сінтаксічныя фігуры: паўторы, антытэза, інверсія, паралелізм, рытарычнае пытанне;

IV) асаблівасці рытмікі:

а) тоніка, сілабіка, сілаба-тоніка, верлібр, белы верш;

б) ямб, харэй, дактыль, анапест, амфібрахій;

V) рыфма (мужчынская, жаночая, багатая) і спосабы рыфмоўкі (парная, крыжавая, кальцавая);

VI) гукавая інструментоўка (алітэрацыя, асананс).

5) Жанравая адметнасць.

6) Уласныя ўражанні і ацэнкі.

**5.** Творчасць Я. Янішчыц — ластаўкі з Палесся — вывучана ў дастаткова поўным аб'ёме: раскрыта яе агульная эвалюцыя, спецыфіка вобразнасці, жанравая шматграннасць, паказана своеасаблівасць індывідуальнага стылю паэткі. Аднак асобныя аспекты творчасці, найбольш складаныя, што палягаюць у сферы сумежжа розных відаў мастацтва — слоўнага, музычнага, жывапісу, — закрануты слаба. У ліку такіх аспектаў вывучэння спадчыны паэткі і праблема яе колеравай палітры. Вызначце дамінантныя колеры лірыкі паэткі. Запішыце ў літаратурны сшытак іх семантыку ў выглядзе табліцы.

| № п/п | Колер | Верш | Значэнне | Цытата |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |

**6.** Падрыхтуйце **паведамленне** «Творчая індывідуальнасць Яўгеніі Янішчыц».

**7.** Складзіце **паэтычную анталогію** з вершаў паэтак вашага рэгіёна.

**8.** Падрыхтуйце **водгук** на любімы твор Я. Янішчыц.

**9.** Дапамажыце кветцы аднавіць пялёсткі, у якіх пазначаюцца назвы зборнікаў Я. Янішчыц:



## ГЕОРГІЙ МАРЧУК

**1.** Падрыхтуйце **мультымедыйную прэзентацыю** пра жыццёвы і творчы шлях Г. Марчука.

**2.** Падрыхтуйце **паведамленне** пра родны горад Г. Марчука Давыд-Гарадок у форме віртуальнай ці завочнай экскурсіі. Растлумачце паходжанне яго назвы.

**3.** Напішыце і правядзіце **конкурс эсэ**, прысвечаны роднаму гораду, яго паўсядзённаму жыццю.

**4.** Цэласна прааналізуйце адзін з пазапраграмных канонаў Г. Марчука па наступным плане:

1) Гісторыя напісання.
2) Тэматыка.
3) Праблематыка.
4) Ідэйная накіраванасць твора і яго эмацыянальны пафас.
5) Жанравая адметнасць твора.
6) Асаблівасці мастацкай вобразнасці.
7) Цэнтральныя персанажы (лірычны герой).
8) Сюжэт і асаблівасці пабудовы канфлікту.
9) Пейзаж, партрэт, дыялогі, маналогі персанажаў, інтэр’ер.
10) Моўная пабудова твора (аўтарскае апісанне, апавяданне, адступленні, разважанні).
11) Асаблівасці кампазіцыі.
12) Месца твора ў творчасці пісьменніка.
13) Месца твора ў гісторыі нацыянальнай літаратуры.

**5.** Падрыхтуйце **даклад** пра жыццё і творчасць вашага славутага пісьменніка-земляка. Па магчымасці правядзіце завочную экскурсію, прысвечаную яго творчасці.

**6.** Падрыхтуйце літаратурна-краязнаўчую карту вашай мясцовасці, на якой пазначце прозвішчы і гады нараджэння пісьменнікаў-землякоў, магчыма, іх літаратурны шлях.

## АЛЯКСЕЙ ДУДАРАЎ

**1.** Падрыхтуйце **мультымедыйную прэзентацыю** пра жыццёвы і творчы шлях А. Дударава.

**2.** Падрыхтуйце **конкурс афіш** да твораў А. Дударава (работа ў групах).

**3.** Адкажыце на пытанні **віктарыны** «Пазнай героя» па творы А. Дударава «Вечар», што вывучаўся ў 8 класе:

1) «Раз'ехаліся ўсе... А калодзеж жывы павінен быць... З яго чэрпаць трэба, каб вада ў зямлю не пайшла, каб не застаялася, каб свежай была...» (Мульцік).

2) «Сонцу, як людаед, моліцца, вада ў яго ну не проста вада, а жывая...» (Гастрыт пра Мульціка).

3) «Душа ў чалавека баліць. На зямлі нарадзіўся, вырас, а рук да гэтай зямліцы ніводнага разу не прыклаў...» (Мульцік пра Гастрыта).

4) «Што добра чалавеку, калі ў яго куточак родны на зямлі ёсць, дзе некалі босым па расе бегаў... Добра, значыць, што цябе чакаюць і помняць заўжды...» (Ганна).

5) «Трое дзетак у партызанах з голаду памерлі, старэйшы сын "без весці", Піліп вярнуўся кулямі ды асколкамі начынены, два месяцы пажыў... Віцька адзін застаўся, дык і ў яго жыццё наперакасяк пайшло...» (Мульцік Гастрыту пра Ганну).

6) «І блін наш на цябе падобны, і бохан хлеба... Ты — наша... Але і астатнія твае дзеці... І іх любіць трэба... Любі, не стамляйся...» (Мульцік сонцу).

7) «Але мы з табой яшчэ толькі таму і жывём, што кожную раніцу па ваду ў гэты калодзеж ходзім, на сотках сваіх калупаемся... З зямлёй за доўгі век зрасліся, душой-сэрцам увайшлі ў яе...» (Мульцік Ганне).

**4.** Наведайце **спектакль** па п'есе А. Дударава і напішыце водгук на спектакль.

Водгук — выказванне ўражанняў, дзе аўтар дзеліцца сваімі думкамі аб творы, пры гэтым не ставіць мэту ўсебакова ахарактарызаваць змест і мастацкую структуру. Водгук пішацца ад імя першай асобы.

 **Кампазіцыйная схема**

1) Уступ (тэзіс).
2) Доказ (аргументы).
3) Вывады.

**5.** Падрыхтуйце **паведамленне** на тэму «Вобразы гістарычных асоб у сучаснай беларускай драматургіі».

**6.** Зрабіце **пастаноўку** сцэны (на ваш выбар) адной з п'ес А. Дударава.

**7.** Звярніцеся да аднакласнікаў з **просьбай ад імя гістарычнай асобы** — князя Вітаўта, Францыска Скарыны, Еўфрасінні Полацкай і інш.

**8.** Падрыхтуйце **паведамленне** пра значэнне творчасці А. Дударава, выкарыстоўваючы наступны план:

1) Месца ў развіцці нацыянальнай літаратуры.
2) Месца ў развіцці сусветнай літаратуры.
3) Асноўныя праблемы эпохі і адносіны да іх.
4) Традыцыі і наватарства ў галіне:
   а) ідэй;
   б) тэматыкі, праблематыкі;
   в) творчага метаду і стылю;
   г) жанру.
5) Ацэнка творчасці крытыкамі і сучаснікамі.

**9.** Падрыхтуйце **літаратурна-музычную кампазіцыю** «Ад прадзедаў спакон вякоў…» (па п'есах А. Дударава).

**10.** Дапамажыце кветцы аднавіць пялёсткі, у якіх пазначаюцца назвы твораў А. Дударава:




# Беларуская літаратура на сучасным этапе

## ПАЭЗІЯ

**1.** Параўнайце літаратуру 1960–1985 гг. з сучаснай літаратурай з дапамогай канцэптуальнай табліцы:

| План | Літаратура 1960–1985 гг. | Сучасная літаратура |
|---|---|---|
| Храналагічныя рамкі | | |

| План | Літаратура 1960–1985 гг. | Сучасная літаратура |
| --- | --- | --- |
| Грамадска-сацыяльныя падзеі | | |
| Пісьменнікі, творы | | |
| Асноўныя тэмы, праблемы | | |
| Асноўныя жанры | | |
| Наватарства | | |
| Заўвагі | | |

**2.** Назавіце паэтаў — прадстаўнікоў старэйшага і малодшага пакаленняў. Параўнайце стылі двух аўтараў, не падобных адзін да аднаго з дапамогай табліцы:

| План | Старэйшае пакаленне | Малодшае пакаленне |
| --- | --- | --- |
| Гады жыцця | | |
| Пачатак літаратурнай дзейнасці | | |
| Асноўныя этапы творчасці | | |
| Асноўныя тэмы | | |
| Асноўныя жанры | | |
| Лірычны герой | | |
| Традыцыі і наватарства | | |
| Ацэнка крытыкаў | | |
| Іншае | | |

**3.** Сцяпан Гаўрусёў — аўтар кніг паэзіі «Штодзённы лістапад», «Профіль веку» — выказаўся пра сябе так: «Я вырас пад гарматнымі стваламі». Як вы разумееце гэты радок? Хто яшчэ з паэтаў мог гэтаксама сказаць пра сябе? Падрыхтуйце **даклады** пра гэтых пісьменнікаў.

4. Ці можна лічыць Анатоля Вярцінскага прадстаўніком філасофскай лірыкі? У чым заключаецца яе адметнасць? Растлумачце назву зборніка і аднайменнага верша паэта «Чалавечы знак».

5. Хто з названых паэтаў раней уступіў у літаратуру, хто пазней? Расстаўце ў «храналагічным парадку» прозвішчы аўтараў: Максім Танк, Янка Купала, Рыгор Барадулін, Алесь Разанаў, Генадзь Бураўкін, Яўгенія Янішчыц, Леанід Дранько-Майсюк. Ахарактарызуйце з дапамогай толькі пяці слоў іх творчасць.

6. Падрыхтуйце вуснае **паведамленне** на адну з наступных тэм: «Гістарычная тэматыка ў паэзіі Уладзіміра Караткевіча», «Грамадзянская лірыка Ніла Гілевіча. Тэма сучаснасці ў ёй», «Максім Танк — майстар верлібра, паэт-філосаф», «Думка і пачуццё ў паэзіі Анатоля Вярцінскага», «Алесь Разанаў і мадэрнізм», «Рыгор Барадулін — майстар тропаў і неалагізмаў», «Тэма памяці ў паэзіі Аляксея Пысіна», «Шлях Алеся Разанава — ад рэалізму да мадэрнізму».

7. Параўнайце індывідуальныя стылі А. Вярцінскага і Р. Барадуліна:

| План | Анатоль Вярцінскі | Рыгор Барадулін |
|---|---|---|
| Гады жыцця | | |
| Пачатак літаратурнай дзейнасці | | |
| Асноўныя этапы творчасці | | |
| Асноўныя тэмы | | |
| Асноўныя жанры | | |
| Лірычны герой | | |
| Традыцыі і наватарства | | |
| Ацэнка крытыкаў | | |
| Іншае | | |

8. Параўнайце арыгінал верша і яго пераклад на іншыя мовы (Р. Барадулін, кнігі «Ксты», «Опрокинутое»).

**9.** Падрыхтуйце разгорнутае маналагічнае выказванне паводле афарыстычных радкоў з верша любімага паэта.

**10.** Складзіце **анталогію** «Сучасная беларуская паэзія».

## ПРОЗА

**1.** Паразважайце над пытаннем «Чаму ў сучаснай беларускай прозе на першае месца выходзіць маральна-этычная праблематыка?». Назавіце творы, у якіх яна найбольш востра закранаецца і раскрываецца.

**2.** Напішыце эсэ «Проза якіх аўтараў твораў пра мінулае мне найбольш імпануе?».

**3.** Падрыхтуйце **літаратурна-музычную кампазіцыю** «Экалогія прыроды і чалавечай душы».

**4.** Правядзіце **міні-віктарыну** па пытаннях:

1) У адным з твораў беларускага празаіка выкарыстаны вершы М. Лермантава, А. Блока, М. Багдановіча і іншых аўтараў. Як ён называецца? Хто яго аўтар?

2) Назавіце творы беларускіх празаікаў, у якіх галоўным «героем» з'яўляецца лес.

3) Вобраз дарогі — адзін з галоўных у беларускай літаратуры. Такія вобразы, што маюць даўнюю гісторыю ў сусветнай літаратуры, называюцца архетыпамі. У якіх творах беларускіх пісьменнікаў (эпічных, лірычных, драматычных) гэты вобраз адыгрывае галоўную ролю, мае найвялікшую ідэйна-эстэтычную каштоўнасць?

4) Твор вядомага беларускага празаіка, які страціў на вайне бацькоў, нават гадаваўся ў дзетдоме, раманнага жанру і зборнік народнага паэта — земляка В. Быкава носяць аднолькавую назву, якая азначае некранутасць прыроды, неабходнасць захавання гармоніі ўзаемаадносін паміж навакольным светам і чалавекам. Што гэта за творы?

5) Сасна — вызначальнае дрэва для краявідаў, аблічча беларускай прыроды і нават у пэўнай ступені характару беларусаў. У некаторых творах беларускіх пісьменнікаў яно выносіцца ў загаловак. Назавіце такія творы. Нагадаем, што адзін пісьменнік і літаратуразнавец выкарыстаў гэтую назву двойчы ў загалоўках сваёй раманнай трылогіі. Другі паэт атрымаў за зборнік вершаў Ленінскую прэмію.

**5.** Падрыхтуйце **паведамленне** пра чарнобыльскую аварыю. Падрыхтуйце **ілюстрацыю** да аднаго з эпізодаў твора, адлюстроўваючы назву «Чарнобыльская малітва». Пракаменціруйце малюнак.

**6.** Складзіце **анталогію** «Сучасная беларуская проза».

**7.** Напішыце ці падрыхтуйце вусна **водгук** на ваш любімы празаічны твор сучаснага пісьменніка: «Я раіў бы прачытаць».

**8.** Падрыхтуйце **даклад** на адну з тэм:

Горад і Вёска як вобразы-сімвалы ў сучаснай беларускай прозе (паэзіі).

Вобраз Чарнобыля ў беларускай прозе другой паловы 1980-х — 1990-х гадоў.

Вобраз сучасніка ў прозе Андрэя Федарэнкі.

«Міфалагічны рэалізм» прозы Віктара Казько.

Дабро і Зло як два палюсы жыцця ў апавяданнях Анатоля Казлова.

Сучасны беларускі дэтэктыў: вытокі і здабыткі жанру.

Фантастыка і фэнтэзі ў сучаснай беларускай літаратуры.

**9.** Падрыхтуйце **праект** (на выбар):

«**XX+I**» (стварэнне біябібліяграфічнага даведніка, прысвечанага найбольш знакамітым беларускім празаікам мяжы XX–XXI стагоддзяў).

«**З талентамі — пра талент**» (стварэнне цыклаў аўдыё- альбо відэагутарак з пісьменнікамі).

«**Музей сучаснасці**» (стварэнне рэальнай ці віртуальнай экспазіцыі, прысвечанай літаратурным суполкам, рухам, таварыствам, якія ўдзельнічаюць у літаратурным жыцці Беларусі 1990-х — 2000-х гадоў).

## ДРАМАТУРГІЯ

**1.** Якія п'есы беларускіх драматургаў вы лічыце цікавымі і папулярнымі? Зачытайце вашы любімыя ўрыўкі.

**2.** Назавіце драматургічныя творы, у якіх уздымаецца маральна-філасофская праблема? Пастаўце сцэну з адной п'есы (на выбар).

**3.** Напішыце **рэцэнзію** на прагледжаны спектакль, параўнайце яго з драматычным арыгіналам сучаснага пісьменніка.

**4.** Растлумачце выраз К. Крапівы «Сатырык сцвярджае, адмаўляючы». Ці стасуецца ён да сённяшняй беларускай драматургіі?

**5.** Запоўніце табліцу «Мова характарызуе... Канкрэтныя прыклады і іх тлумачэнне».

| Герой, твор | Цытата | Рыса характару героя |
|---|---|---|
| | | |

**6.** Стварыце **кадраплан** вашай любімай п'есы.

**7.** Падрыхтуйце **выніковую чытацкую канферэнцыю** «Сучасная драматургія: каардынаты ідэйна-мастацкага пошуку».

# Пытанні і заданні для абагульнення

**1.** Доўгі час беларуская літаратура XX стагоддзя ацэньвалася і характарызавалася як сялянская. Якімі аргументамі карысталіся літаратуразнаўцы і крытыкі, так яе называючы? Прозвішчы вядомых вам беларускіх і рускіх пісьменнікаў мінулага стагоддзя ўпішыце ў табліцу па ніжэйпрыведзеным узоры. Ці пацвярджае схема назіранні і вывады знаўцаў слоўнага мастацтва?

| Прозвішча пісьменніка | Паходжанне | Тэматычны змест творчасці | Пацвярджаецца думка навукоўцаў | Пярэчыць думцы навукоўцаў |
|---|---|---|---|---|
| Янка Купала | Са шляхты | Жыццё сялян і інтэлігенцыі | – | + |
| Якуб Колас | З сялян | Жыццё інтэлігенцыі і сялян | + | – |
| | | | | |
| | | | | |

**2.** Правядзіце самастойна ўрок-абагульненне вывучанага матэрыялу, запоўніўшы наступную табліцу:

| Пытанне | Пісьменнікі | Назвы твораў | Гады напісання | Жанр | Цытата |
|---|---|---|---|---|---|
| Сучасная беларуская проза | | | | | |
| Сучасная беларская паэзія | | | | | |
| Сучасная беларуская драматургія | | | | | |

**3.** Арганізуйце ў класе **віктарыну** «З займальнага літаратуразнаўства: думкі, меркаванні, здагадкі» па наступных пытаннях:

1) Які трохскладовы вершаваны памер называецца так, як і частка чалавечага цела? Чаму?

2) Адзін з двухскладовых вершаваных памераў звязаны сваёй назвай з назвай музычнага інструмента і аднаго з відаў спорту адначасова. Як гэты вершаваны памер называецца?

3) Вершаваны памер — харэй. Музычны калектыў — хор. Якая тут сувязь?

4) Як вы ведаеце, многія літаратуразнаўчыя тэрміны маюць старажытнагрэчаскае моўнае паходжанне. Некаторыя з іх звязаны з імёнамі багоў, міфалагічных істот. Што ў гэтым плане можна сказаць пра сугучча на канцы радкоў у вершах (рыфму)?

5) У якіх вобразах стаяць побач канкрэтнае, прадметнае і абстрактна-філасофскае і вынікаюць адно з другога па ледзь прыкметным падабенстве? Хто з нашых беларускіх паэтаў удала карыстаецца падобнымі вобразамі?

6) Ці ёсць сэнсавая сувязь паміж рускім словам «тропа» (сцежка) і літаратурным тэрмінам «троп»?

7) Памяншальна-ласкальны суфікс у большасці выпадкаў сваім сэнсавым прызначэннем (прыхарошванне з'яў, «узмоцненая» станоўчая або адмоўная ацэнка іх) звязаны з нейкім тропам (тропы яшчэ па-іншаму называюцца слоўна-выяўленчымі сродкамі). З якім?

8) Назавіце тэрміны ў навуцы пра літаратуру, якія маюць усходнеславянскае ці беларускае паходжанне і не маюць адпаведнікаў на іншаземных мовах. Некалькі такіх тэрмінаў нагадаем: пасланне, паданне, казка, апавяданне.

9) Як называецца страфа, якая складаецца з васьмі радкоў? Назавіце зборнік паэта з Лагойшчыны — прадстаўніка філалагічнага, пасляваеннага пакалення, што складаецца толькі з такога роду вершаў?

10) Назва якога метаду і літаратурнага кірунку паходзіць ад слова «ўзорны»?

11) Назва якога роду літаратуры і па якіх прычынах паходзіць ад назвы музычнага інструмента?

12) Творы на ўрачыстыя выпадкі жыцця — хвалебныя песні ў адрас пераможцаў на Алімпіядах у Старажытнай Грэцыі, з прычыны ваенных перамог, нейкіх значных дасягненняў, нараджэння славутых людзей-герояў, усхвалення краіны, народа — называюцца па-рознаму. У сувязі з гэтым падбярыце сінонімы да слова «ода».

**4.** Наладзьце разам з настаўнікам **творчую сустрэчу** (майстар-клас «круглы стол») з крытыкамі, літаратуразнаўцамі, спецыялістамі ў галіне літаратурнага краязнаўства. Сфармулюйце яе тэму. Падрыхтуйце анкету (сістэму пытанняў) для літаратуразнаўца (крытыка, краязнаўца).

**5.** Падрыхтуйце **даклад** на адну з тэм: «Беларуская мастацкая літаратура ў інтэрнэце» або «Што такое інтэрнэт-крытыка?».

**6.** Запоўніце табліцу па тэорыі літаратуры, матэрыялам для прыкладаў павінна паслужыць творчасць вашага любімага паэта (Р. Барадуліна, А. Разанава, Я. Янішчыц і інш.).

| Троп | Азначэнне | Прыклад |
|---|---|---|
| Параўнанне | Мастацкі троп, у аснове якога ляжыць супастаўленне дзвюх з'яў з мэтай іх характарыстыкі адной праз другую | |
| Метафара | Від тропа, у якім уласцівасці адной з'явы пераносяцца на другую па прынцыпе ўпадаблення | |

| Троп | Азначэнне | Прыклад |
|---|---|---|
| Эпітэт | Мастацкае азначэнне, якое вобразна характарызуе прадмет, чалавека або жыццёвую з'яву | |
| Увасабленне | Мастацкі троп, асобны від метафары, які асноўваецца на прыпадабненні прадметаў, з'яў прыроды паводзінам чалавека, перанясенні на гэтыя з'явы чалавечых уласцівасцей | |

**7.** Часцей мы карыстаемся замежнай тэрміналогіяй. Больш за ўсё літаратуразнаўчых тэрмінаў маюць старажытнагрэчаскае паходжанне, меншая частка іх — з лацінскай, французскай, англійскай і нямецкай моў. Перакладзіце з беларускай мовы на замежныя (рускую і тую мову, што вы вывучаеце ў школе) наступныя тэрміны.

Пабудова — ______________________________.

Перанясенне — ______________________________.

Адухаўленне — ______________________________.

Свабодны верш — ______________________________.

Пасляслоўе — ______________________________.

Супрацьпастаўленне — ______________________________.

Перабольшанне — ______________________________.

Памяншэнне (троп) — ______________________________.

Апавяданне (байка, казка) — ______________________________.

Змест — ______________________________.

Тэма — ______________________________.

Кампазіцыя — ______________________________.

**8.** Напішыце **нататку ў газету** на тэму «Беларуская літаратура XXI стагоддзя: якая яна?».

**9.** Гэта дом, дзе жывуць пісьменнікі XX стагоддзя. Па слове з назвы твора паспрабуйце аднавіць імя і прозвішча пісьменніка.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Сэрца ... | ... на волю | Я з ... | ... вясной | ... бяды |
| ... дзеці | ... панна ... | Суд ... | Дом ... | ... Маці |

**10.** Паспрабуйце напісаць **пажаданне** будучым пяцікласнікам, выказаць ім свае парады, пажаданні і парады па вывучэнні беларускай літаратуры.

# Змест

